№ 20 (229) 14 траўня 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# АСАБЛІВАСЬЦІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АЛЬКАГАЛІЗМУ

“У гэтым *смак* беларускага жыцьця: маеш быць “як чалавек”, маеш быць “як усе”, маеш *абавязак* піць, бо інакш трапляеш у “слабакі”, “хлюпікі” і ўвогуле выродкі, *ня людзі*. Але ня маеш напівацца!”

Эсэ Алеся Чобата. Старонка 9.

# Чамадан, Масква... а потым?

**Чатыры кандыдаты ў прэзыдэнты з антылукашэнкаўскага альянсу пабывалі зь візытам у Маскве. У адміністрацыі Пуціна іх прынялі. У аддзеле ўнутранай палітыкі.**

Пяты, Ганчарык, не паехаў, паслаў замест сябе прэс-сакратара. Неафіцыйныя сустрэчы з расейскімі палітыкамі і ўплывовымі дзеячамі беларускага паходжаньня ў Маскве значылі нашмат болей, чым афіцыйная частка вяжу.

У адрозьненьне ад 1994 г., сёлета пытаньні палітычныя, а тым больш замежнапалітычныя, мала цікавяць беларускіх выбарцаў, перасычаных ідэалягічнымі баталіямі апошняй семігодкі. Як дабіцца большай пабытовай бясьпекі, павышэньня якасьці жыцьця, лячэньня ў бальніцах, навучаньня ў школах, лягчэйшага перамяшчэньня па Эўропе і Расеі – вось ключавыя пытаньні сёлетняй кампаніі. Хто прапануе ясныя, прывабныя і рэалістычныя рэцэпты — той і выйграе. Пакуль прапануе адзін Лукашэнка. Яго́ныя рэцэпты старыя, а сацыяльная база — галота. Ніхто зь пяцёркі яснае праграмы не прадставіў, усё больш лёзунгі, а таму яны пакуль карыстаюцца толькі падтрымкай палітызаванай часткі выбарцаў. А пра інтэграцыю, славянскае адзінства (як і сувэрэнітэт і рэформы) усім абрыдла слухаць. Наеліся, годзе...

Таму і пункт пра развіцьцё саюзу з Расеяй стаіць толькі пры канцы супольнай праграмы “пяцёркі сьмелых”, таму Лукашэнка ўзмацніў незалежніцкую рыторыку, у выніку чаго іх перадвыбарныя плятформы ў замежнапалітычнай частцы сталі амаль аднолькавыя.

Працяг на старонцы 3.





## Проза летніх дарог

Цэлае лета ў “Нашай Ніве” штотыдзень — новае апавяданьне. У далёкія і блізкія падарожжы бярэце з сабой “Нашу Ніву” — і чытайце.
У гэтым нумары — апавяданьне Гайнрыха Бёля “Як у кепскіх раманах”.

Старонка 10.






IREX-PROMEDIA

## Сьцягі над горадам

**Учора жыхары многіх гарадоў пабачылі над сваімі дахамі бел-чырвона-белыя сьцягі.** Такім чынам Малады Фронт адзначыў угодкі ганебнага рэфэрэндуму. У Менску вялізнае палотнішча лунала на дроце, нацягнутым між 20-павярховымі гмахамі на скрыжаваньні вуліцаў Багдановіча і Варвашэні. Сьцяг лунаў і на вышынным будынку на праспэкце Скарыны проці Акадэміі навук. Штандары зьявіліся таксама ў Зялёным Лузе, Серабранцы, Камароўцы, на цэнтральных вуліцах Бабруйску, Баранавічаў, Берасьця, Віцебску, Горадні, Крычава, Магілёва, Мастоў, Радашкавічаў, Стоўпцаў ды яшчэ дзясятку гарадоў.

Б.Т.

# Хочуць, як лепш, а выйдзе, як заўсёды

Палітоляг У.Палахала ў інтэрнэт-газэце “Украінская правда” праракуе, што прызначэньне Чарнамырдзіна паслом у Кіеў мае выклікаць зьяўленьне на ўкраінскай палітычнай сцэне яшчэ аднаго цэнтру ўлады (з-за шырокіх сувязяў былога расейскага прэм'ера сярод украінскіх багатыроў) і частковую страту Украінай незалежнасьці. “Зараз можна чакаць прызначэньня новым прэм'ерам Украіны асобы, што арыентавалася б на сваё асабістыя кантакты ў Расеі”.

Пуцін знайшоў, каго пасла́ць да ўкраінскіх алігархаў, якія раскралі, зьвялі да жабрацтва заможную, чарназёмную Украіну. Гэта ясны жэст: вось, Украіна, як многа ты значыш для нас. Пасла гэткага маштабу мы не паслалі ні ў Вашынгтон, ні ў Пэкін. Вярніся ва ўлоньне Расеі, і зажывеш, як Беларусь, – на капеечным газе, і будзем разам пампаваць паліва ў Эўропу, дзяліць грошы па-братэрску ды дурыць народы. Бліскучая ідэя – звабіць, купіць украінскую алігархію, якая страшэнна баіцца ўласнага народу.

Пуціну не адмовіш у сьвежасьці мысьленьня. Ды толькі геніяльнаму гэбісту не пашчасьціла з краінай.

Працяг на старонцы 5.

## *Чарнамырдзін паедзе паслом Расеі ў Кіеў*

**У сьпісе найбагацейшых людзей сьвету, складзеным часопісам *Forbes*, Чарнамырдзін — у другой сотні. Ягоны асабісты капітал складае прыкладна $5 млрд. Якім чынам прэм'ер мог атрымаць такія грошы на дзяржаўнай службе або працуючы ў дзяржаўным прадпрыемстве *"Газпром"*? *New York Times Magazine* пісала некалі, што ЦРУ мае таўшчэзнае дасье на Чарнамырдзіна. Тамака падаваўся факт, як памочнік Чарнамырдзіна запатрабаваў ад заходніх бізнэсоўцаў мільён даляраў толькі за арганізацыю сустрэчы з босам, без гарантыі станоўчага вырашэньня справы. Амэрыканцы заплюшчвалі вочы на фінансавыя круцельствы Чарнамырдзіна, каб не псаваць стасункаў з Расеяй. Кажуць, калі віцэ-прэзыдэнт ЗША А.Гор (сустаршыня камісіі па развіцьці эканамічных стасункаў між ЗША і Расеяй, якую з расейскага боку спачатку ачольваў газавы прэм'ер) прачытаў дакладны допіс спэцслужбаў пра гэта, дык напісаў на ёй нецэнзурную рэзалюцыю "схаваць на ...". А Дж.Буш наадварот, падчас перадвыбарнае кампаніі разглядаў фігуру колішняга першага міністра Расеі як сымбаль карупцыі.**

**Прызначэньнем Чарнамырдзіна Пуцін забівае два зайцы: высылае з краіны яшчэ аднаго алігарха і ўзмацняе ціск на Украіну.**



**"Чарнамырдзін" у цюркоідным перакладзе значыць "Карамазаў". (Жарт.)**

## З усёй краіны



Ландышы закрасавалі

### Стан здароўя Смольскага й Хадыкі

**Цяжка захварэў кампазытар Зьміцер Смольскі**. Год таму ён перанёс цяжкую апэрацыю на сэрцы (яму прыладзілі два штучныя кляпаны), але працягваў выкладаць у кансэрваторыі, пісаць музыку, і вось цяпер – новыя ўскладненьні. У шпіталі сытуацыю ўдалося нармалізаваць. Сп.Смольскі спадзяецца неўзабаве вернуцца да працы.

Палепшала Юр'ю Хадыку, які перанёс пасьляапэрацыйны сэпсыс. Яго ўжо адпускаюць са шпіталю дахаты на выходныя. Дзён праз дзесяць адзін зь лідэраў БНФ зьбіраецца зусім вырвацца з больнічнае няволі.

**Юлія Андрэева**

### Кожнаму пастуху – 100 тысячаў

**У тупіковай сытуацыі апынулася кіраўніцтва калгасу імя Мічурына Астравецкага раёну.** Час выганяць кароў на пашу, а пастухоў няма. Ніводзін калгасьнік не згаджаўся пасьвіць "рагуляў" ды "зорак" за 30—40 тысячаў у месяц.

Тады праўленьне калгасу паабяцала кожнаму пастуху заплаціць па 100 тысячаў рублёў. Ахвотныя адразу знайшліся. Ці не чарга мэханізатараў патрабаваць?

**М.В., Астравец**

### Спэцыяліст

**15 сакавіка міліцыянты арыштавалі спэцыяліста з управы сельскай гаспадаркі Смургонскага райвыканкаму.** Ён абвінавачваецца ў згвалтаваньні 12-гадовай дзяўчынкі. Дзядзечка паабяцаў малой цукерак і яшчэ нешта смачнае, зацягнуў у службовы гараж і сілай напаіў дзіця самагонкай. Папярэдняе сьледзтва цягнулася амаль два месяцы. За гэты час высьветлілася, што спэцыяліст запрашаў дзяўчынак «у госьці» па падарункі (жуйкі, кока-колу, мандарынкі) неаднаразова. Ахвяры былі з малазабясьпечаных сем'яў. Усе згвалтаваньня, па меркаваньнях пракуратуры, маюць адставаньне ў псыхічным разьвіцьці. А вось сам дзядзечка, па выніках праверкі ў псыханэўралягічным шпіталі, выявіўся нармальным. Ён сядзіць у СІЗА. Справа перададзеная ў суд.

**Таццяна Скарынкіна, Смургоні**

### Мсьціслаўскія талібы

**У Мсьціславе зьнесьлі помнік Леніну.** Гіпсавая скульптура, безгустоўная і няякасная, доўгія дзесяцігодзьдзі ўпрыгожвала дзіцячы парк. Аднак час і мясцовыя хуліганы ўзялі сваё: Ільіч паступова страціў руку, а потым нос. Грошай на рэстаўрацыю не знайшлося, і помнік, са згоды выканкаму, зьнесьлі.

А вось у суседнім Крычаве грошы на аднаўленьне помніка былі знойдзеныя, і гіпсавы Ільіч атрымаў новую руку, ды яшчэ кнігу ў дадатак.

Мсьціслаўскі раён унікальны тым, што там няма ніводнага падпісчыка "Нашай Нівы".

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

### Канцэрт у гаражы

**У Горадні адбылася сумесная рэпэтыцыя-канцэрт маладых гуртоў, зарганізаваная ініцыятывай «Нага».** Пасьля выступу гуртоў *«Kontra la kontra»* і *«Pet Nihil»* прыехала міліцыя і канцэрт спыніла. Міліцыянты, амапаўцы і асобы ў цывільным пачалі правяраць у моладзі дакумэнты. Але надоўга затрымалі толькі хлопца, якому належыў гараж, дзе ладзіўся канцэрт. Яго адпусьцілі праз гадзіну, узяўшы тлумачальную і абяцаньне, што ён больш ня будзе парушаць грамадзкага парадку.

**Андрэй Мялешка, Горадня**

# Сьцяг брыгадзіра

## *Полацкага чыгуначніка звальняюць за бел-чырвона-белы сьцяг*

30 верасьня 1999 г. брыгадзір чыгуначнай брыгады станцыі Баравуха (пад Полацкам) Анатоль Каханчык намаляваў на адным з прыстанцыйных будынкаў вялізны бел-чырвона-белы сьцяг. Выявіў паводле ўсіх правілаў манумэнтальнага жывапісу – алейнаю фарбаю. Пасажыры цягнікоў кожны раз махалі сьцягу з вокнаў.

Чыгуначнае кіраўніцтва адразу ж выказала сваё незадавальненьне і стала патрабаваць ад брыгадзіра, каб той зафарбаваў палітычна небясьпечныя колеры. Сп.Каханчыку і ягоным сябрам даводзілася нават сярод ночы пільнаваць, каб хто не запэцкаў нацыянальнай сьвятыні.

І вось нядаўна ў Віцебскім аддзяленьні Беларускай чыгункі зьявіўся новы кіраўнік – Пахоўкін. Пабачыўшы на будынку выяву сьцяга, новы кіраўнік у грубай форме загадаў зафарбаваць увесь будынак, паабяцаў звольніць Каханчыка з працы, а калі жанчынычыгуначніцы заступіліся за брыгадзіра, пачаў іх абражаць.

Пасьля ад'езду Пахоўкіна ўсе сталі ўпрошваць сп.Каханчыка ўласнаручна запэцкаць сьцяг і такім чынам застацца на працы, але той адмовіўся.

Праз тыдзень у Баравуху патэлефанаваў віцебскі начальнік, які, даведаўшыся, што сьцяг дагэтуль не запэцканы, паабяцаў звольніць ня толькі брыгадзіра, але й начальніка станцыі, майстроў і абходчыкаў.

Наступнага ранку брыгадзір прыйшоў на працу і з болем у сэрцы ўбачыў, што сьцяг зафарбаваны. Але яго адразу супакоілі: маўляў, зафарбавалі ўсяго толькі вапнавай рошчынай, якую змые першы ж травеньскі дождж.

Анатоль Каханчык амаль 18 гадоў адпрацаваў брыгадзірам, за гэты час ня меў ніякіх заўвагаў. Сам Каханчык кажа, што гаворка тут ідзе не пра долю асобнага чалавека, а пра лёс нацыянальнай сьвятыні, якую ў нас спрабуюць адабраць начальнікі.

**Паводле Радыё Свабода**

## Спартовы тыдзень

# *Шанец застаецца*

Хакейная зборная, якая выйграла "ганаровую" пуцёўку ў дывізыён "Б", яшчэ можа застацца ў эліце. Паводле рэглямэнту чэмпіянатаў сьвету, азіяты (цяпер у асобе японцаў) маюць адно фіксаванае месца аж да 2005 г. Каб прапагандаваўся хакей у Азіі.



**Беларускія дзяўчаты ўзялі ўдзел у чэмпіянаце сьвету па фітнэсе ў Кіеве.**

Аднак не пасьпеў скончыцца чэмпіянат сьвету, як папаўзьлі чуткі пра тое, што беларусы могуць застацца ў групе "А". Нібыта спонсарам, якія фінансуюць японскае хакейнае шоў, абрыдла назіраць за ганебнымі гульнямі сваіх хакеістаў, і яны не сьпяшаюцца плаціць за іх Міжнароднай фэдэрацыі хакею. Калі адракуцца – мы ў групе "А" застанемся, ды на наступны год у Швэцыю паедзем.

Лядовыя справы адкладаюцца да восені, надышла футбольная пара. Паўфіналісты Кубку Беларусі згулялі першыя матчы. Рэчыцкі "Ведрыч" упёрся рогам у "Белшыну" ды выціснуў нулявую нічыю, а мазырцы ў Менску перайгралі "Дынама" 1:0. Матчы ў адказ – 18 траўня.

**Богусь Біятлянёнак**

## Рэпліка

### "БДГ" І АБАРЫГЕНЫ

У рубрыцы "Асобы" "Белорусской Деловой Газеты" на пазатым тыдні фігураваў старшыня Дзяржкамдруку М.Падгайны, які дамовіўся, што ў Башкортастане будуць прадаваць беларускую прэсу. "Во будзе сьмеху, калі туды павязуць прэсу з "нацыянальным калярытам". У сэнсе - "беларускамоўную", – зьдзекавалася "БДГ". На тым тыдні рубрыку адкрыла постаць Васіля Быкава. "Як паведамілі польскія СМІ, ПЭН-Цэнтар гэтае краіны мае вылучыць Васіля Быкава на атрыманьне Нобэлеўскай прэміі...", - піша прэстыжная газэта. Першай пра гэтае вылучэньне напісаў такі "польскі СМІ", як "Наша Ніва". Было гэта 2 траўня. Ну, але няхай... Няхай "НН" будзе польскім СМІ. Добра хоць, што Быкава не залічылі ў гэтыя... як іх... "з нацыянальным калярытам". Белмоўныя - в смысьле.

**Няруські**

## Дзе варта быць

### *Сазыкіна*

У менскім Музэі сучаснага выяўленчага мастацтва (каля пл.Якуба Коласа, як ісьці да пл.Перамогі) адкрылася выстава Вольгі Сазыкінай. Выстава добрая, будзе працаваць да **29 траўня.**

### *Літвечарына*

**16 траўня а 17-й у** Беларускім гуманітарным ліцэі адбудзецца прэзэнтацыя літаратурных часопісаў: полацкага «Калосьсе» (№9) і беластоцкага «Правінцыя» (№1—2) з удзелам рэдактара «Правінцыі» Аляксандра Максімюка, Юрася Барысевіча, Андрэя Хадановіча, Людкі Сільновай.

## Навіны гаспадарскія

### Ільготам – вайна

Менгарвыканкам рыхтуецца забараніць жыхарам іншых рэгіёнаў краіны купляць кватэры ў сталіцы. Замежнікам – можна, неменчукам-беларусам – не. Маўляў, закон такі. Рынак жыльля адрэагаваў імгненна – цэны на танныя аднапакаёўкі скокнулі ў сярэднім на 500 даляраў.

Ляснуў адзін з пэрспэктыўных праектаў жыльлёвага будаўніцтва "Рацыянальны дом". Ягоныя ўмовы былі такія: тры чвэрці кошту кватэры ў растэрміноўку аплочвае з уласнай кішэні сам грамадзянін, а астатнія 25% фінансуе дзяржава. Аднак апошнім часам яна ня мае грошай на гэткія "прэміі" ды зноў робіць стаўку на крэдыты. Бяда толькі, што крэдытных сродкаў катастрафічна не стае нават на тыя дамы, будаўніцтва якіх ужо пачалося.

Як паведаміла БТ, сацыяльная сфэра абыходзіцца штогод у 14% ВУП краіны. Гэта самы высокі ўзровень у Эўропе. Разам з тым, мы маем ці ні найвышэйшы ўзровень беднасьці – "за рысай" жыве каля 40% беларусаў. Урад мае намер абвясьціць вайну ільготам, права на якія маюць 200 катэгорыяў насельніцтва. Як і ва ўсім сьвеце, ільготы хочуць замяніць на грашовыя даплаты для самых бедных. Праўда, ці хопіць сьмеласьці давесьці "непапулярную" справу да канца, пакуль невядома.

Тым часам, падсумаваныя вынікі чарговага суботніка. Яны ўражваюць: на пазамінулым тыдні амаль 3,5 мільёна чалавек зарабілі дзяржаве некалькі мільярдаў "дадатковых" рублёў. Цікава, ці доўга яшчэ бясплатная праца ў нас будзе лічыцца дасягненьнем?

**Сяржук Іваноўскі**

## Апытаньне "НН"

**За каго Вы прагаласавалі б на прэзыдэнцкіх выбарах?**

________________________

**Пад якім дэвізам мусіць ісьці на выбары кандыдат, за якога Вы прагаласавалі б?**

________________________

**За якую партыю Вы прагаласавалі б на парлямэнцкіх выбарах?**

________________________

**Калі б зараз стварылася новая аб'яднаная кааліцыя апазыцыі, як яна, па-Вашаму, мусіць называцца?**

________________________

Выражце гэты бюлетэнь і дашлеце ў рэдакцыю "НН":
220050 Менск а/с 537 "Апытаньне "НН".
E-mail: nn@irex.minsk.by

## ВЫНІКІ ГАЛАСАВАНЬНЯ ЧЫТАЧОЎ «НН» НА СЁНЬНЯ

**1) За каго б Вы прагаласавалі на прэзыдэнцкіх выбарах?**

Зянон Пазьняк **37** (23)
Сямён Домаш **33** (23)
Вінцук Вячорка **7** (4)
Аляксандар Дабравольскі **3** (2)
Станіслаў Багданкевіч **2** (1)
Аляксандар Лукашэнка **2** (2)
Ні за каго **2** (0)
Міхаіл Чыгір **2** (1)
Сяргей Антончык **1** (1)
Павал Жук **1** (1)
Уладзімер Кобец **1** (0)
Пятро Краўчанка **1** (1)
Юры Хадыка **1** (0)

**2) Пад якім дэвізам мусіць ісьці на выбары кандыдат, за якога вы прагаласавалі б?**

"Беларусь – для беларусаў!" **11** (6)
"Беларусь – у Эўропу!" **10** (9)
"За вольную Беларусь!" **3** (2)
"Дэмакратыя, Эўропа, незалежнасьць" **3** (2)
"Незалежная Беларусь" **3** (3)
"Дабрабыт людзей свабодных" **2** (1)
"Незалежнасьць, адраджэньне, перамены" **2** (1)
"Незалежнасьць і дэмакратыя" **2** (1)
"Свабода і незалежнасьць" **2** (1)
"Беларусь - наш дом" **2** (1)
"Нармальны прэзыдэнт" **2** (2)
"Прэч маскоўскіх акупантаў" **2** (2)

"Радзіма і Свабода!", "Няма лепш, як Домаш", "Добры прэзыдэнт", "Жыць будзем лепш", "Спакойная сіла", "Вядома ж, Домаш", "Не - хлусьні і імпэрыі", "Расея - гаўно!", "Незалежнасьць, рэформы, добрасуседзтва", "Адраджэньне Беларусі як нацыі", "Адраджэньне, правапарадак, дабрабыт", "За Бацьку!", "За эканамічныя рэформы без прыцясьненьня найбяднейшых слаёў насельніцтва", "Vincetore", "Беларусь - свабодная дэмакратычная дзяржава", "Далоў рэжым дыктатуры", "Адродзім веліч нацыі беларускай", "Беларусь - краіна магчымасьцяў", "Адраджэньне Незалежнай Беларусі", "Слава нацыі! Сьмерць ворагам!", "Незалежнасьць, дэмакратыя, дабрабыт", "Мір і спакой", "Мы не дамо ім панаваць!", "Наш дом - Цэнтральна-Ўсходняя Эўропа", "Жыве Беларусь! Стоп Расея!", "Абаронім незалежнасьць Бацькаўшчыны", "За Беларусь", "Пераменаў", "Наша ніва і ваша", "За новую Беларусь", "Незалежнасьць, свабода, дабрабыт", "Годна жыць, а не існаваць", "Свабодная эўрапейская дзяржава", "Бог, Беларусь, воля", "Беларусы вартыя лепшага жыцьця", "Вольнасьць, цэласьць, незалежнасьць", "Беларусам - самае лепшае", "Парадак, рэформы, сумленнасьць", "Дзяржава дзеля людзей", "Зь вераю ў Бога і Беларусь!", "Незалежнасьць+Рэформы=Дабрабыт", "Мы пераможам", "Беларусам – беларускую ўладу", "Зь любоўю да шчырых працаўнікоў", "Беларуская ідэя", "Хочаш жыць не абы-як, галасуй, каб быў Пазьняк", "За здаровую эканамічную палітыку", "Незалежнасьць - гарант дабрабыту", "Беларуская альтэрнатыва", "Беларуская салідарнасьць", "Домаш – дабрабыт", "Зьмены да лепшага", "Шлях да дабрабыту – незалежнасьць, дэмакратыя, рынкавая эканоміка", "Шчасьце й каханьне", "Пераменаў" – усе па **1.**

**У наступным нумары – аналіз прамежкавых вынікаў апытаньня па ўсіх чатырох пазыцыях.**

# Чалавечы рэсурс

## Гутарка з Валер'ем Буйвалам



**Сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ заклікалі менчукоў 18 траўня правесьці ля Палацу Рэспублікі на Кастрычніцкай плошчы альтэрнатыўны Усебеларускі сход – каб засьведчыць, што грамадзтва нязгоднае з палітыкай Лукашэнкі. Ці такою сама наступальнаю будзе тактыка кансэрватараў у часе прэзыдэнцкай кампаніі? Гаворыць прэсавы сакратар партыі Валеры Буйвал.**

Зянон Пазьняк будзе браць удзел у прэзыдэнцкіх выбарах абавязкова. Яшчэ ў лютым да яго з адпаведным заклікам зьвярнулася соймавая канфэрэнцыя партыі, і ён пагадзіўся.

**— Ці вернецца Зянон на Радзіму?**

— Вернецца. Калі і якім чынам, будуць вырашаць людзі, якія зьбіраюць подпісы ў ягоную падтрымку.

**— Лідзія Ярмошына заявіла пра немагчымасьць удзелу Пазьняка...**

— Мы чулі аргумэнтацыю Цэнтравыбаркаму. Яна не адпавядае заканадаўству. Нават калі нам адмовяць, мы будзем зьбіраць подпісы, весьці падрыхтоўчую працу, змагацца за нашага кандыдата. Мы пэўныя, што дастатковая колькасьць людзей не пабаіцца аддаць галасы ў падтрымку Пазьняка. Ну а там ужо будзе відаць.

**— Ці ёсьць у партыі нейкі рэсурс, ці хопіць грошай, людзей для збору подпісаў?**

— З грашыма цяжка. Нашыя прыхільнікі ня маюць магчымасьці дапамагаць нам фінансава, але ж чалавечы рэсурс вельмі вялікі. Наша надзея — на валанцёраў, гатовых аддаць свой час і сілы на карысьць кандыдата і Бацькаўшчыны.

І такіх людзей з кожным днём усё больш. Бо для іх і для нас галоўнае — не перамога на выбарах, а захаваньне незалежнасьці нашай дзяржавы.

Наш маніторынг сьведчыць, што незалежніцкую пазыцыю падтрымлівае большасьць грамадзтва, больш за 70%. Асабіста ж у Пазьняка рэйтынг да 40%. Усе сацыёлягі кажуць пра нашмат меншую колькасьць прыхільнікаў. Такую ж сытуацыю мы назіралі ў 1994 г., калі таксама залежныя і "незалежныя" цэнтры казалі пра 3—4%, а Зянон набраў ажно 13%! Нават паводле афіцыйных, сфальшаваных зьвестак! Нельга верыць маніпуляваным фактам.

**— Ці магчымае далучэньне Пазьняка да пяцёркі патэнцыйных кандыдатаў?**

— Не, гэта цалкам выключана. Пасьля заявы "пяцёркі" пра сяброўства з Расеяй адпалі апошнія сумненьні. Гэтая публіка прадае Беларусь. Ніякіх стасункаў зь імі мы мець ня можам. Няхай спаборнічаюць з Лукашэнкам за гэты сумнеўны гонар. Я нават не называў бы гэтай публікі апазыцыяй. Уся іхная "апазыцыйнасьць" — у жаданьні пазбыцца Лукашэнкі. Паглядзіце, яны ж зьбіраюцца праводзіць антыбеларускую палітыку і нават не хаваюць гэтага.

### Пазьнякоўцы баяцца перамогі "аб'яднаных"

Аднаму такому заляцальшчыку, хлусу народ паверыў у 1994 г. Куды гэта прывяло краіну, мы бачым, а хлуса дагэтуль пазбыцца ня можам.

**— То бок шанец дасягнуць перамогі ў аб'яднаных апазыцыянэраў ёсьць?**

— У тым і небясьпека. Нават акадэмічная інтэлігенцыя галасавала за Лукашэнку ў другім туры тых выбараў. Толькі б ня Кебіч, маўляў. У новым пер'і гэты варыянт цалкам магчымы сёньня.

**— Кансэрватары ня будуць байкатаваць выбараў?**

— Хутчэй за ўсё, не. Сур'ёзная барацьба ідзе, і ўхіляцца ад яе мы не зьбіраемся.

**Гутарыў Вадзім Доўнар**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

*Паездка была арганізаваная расейскім Фондам абароны галоснасьці — арганізацыяй антыпуцінскай і напаўдысыдэнцкай. Рашэньне кандыдатаў прыняць запрашэньне Фонду было, магчыма, першай сур'ёзнай памылкай іх расейскай стратэгіі. Расейскія СМІ, даступныя ў Беларусі, паездку праігнаравалі.*

# Чамадан, Масква... а потым?

**Працяг са старонкі 1.**

Пасьля выбараў – хто б іх ні выйграў – Расею хутчэй за ўсё чакае пахаладаньне ў стасунках зь Менскам. Беларусь зоймецца далейшым і больш адкрытым умацаваньнем дзяржаўнага суверэнітэту, наколькі будзе дазваляць фінансавы стан краіны.



С.Калякін У.Ганчарык П.Казлоўскі М.Чыгір С.Домаш

За першыя 10 гадоў незалежнасьці ў Беларусі стварылася жорсткая сыстэма ўлады, але ня ўзьнікла асобнае інфармацыйнае прасторы. Менавіта на яе фармаваньне могуць быць скіраваныя высілкі беларускае дзяржавы ў першым дзесяцігодзьдзі новага веку. Ня менш важная і задача структурных рэформаў эканомікі ды прыватызацыі прамысловасьці. Як і ў пытаньні асноўных накірункаў замежнае палітыкі, у разуменьні гэтага згаджаецца ўся беларуская палітычная эліта.

Без вырашэньня гэтых праблемаў немагчыма вырвацца з прыніжальнай залежнасьці ад Расеі, якая стрымлівае разьвіцьцё Беларусі. Вырашэньне вымагае гіганцкіх замежных інвэстыцыяў. Лукашэнку, які скампрамэтаваў сябе і трапіў у міжнародную ізаляцыю, знайсьці такія сродкі і атрымаць заходнія крэдыты цяжэй, чым кожнаму новаму прэзыдэнту. Значыць, Лукашэнка будзе больш залежны ад Масквы, чым хтосьці кольвек. Таму, па ўсім відаць, Крэмль будзе працягваць сваю ранейшую стратэгію, якая заключаецца ў спрыяньні расколам беларускай апазыцыі.

Візыты альянтаў у Маскву патрэбныя, але сытуацыі не мяняюць. Гэта рытуальныя акты, бязь іх не абысьціся, ды толькі Масква сваё слова сказала, і даўно. І з чаго б гэта ёй яго мяняць? Нашмат больш, чым ад Масквы, вынік выбараў залежыць ад Вашынгтону (які ў мінулыя гады фактычна маўчаў) і незалежнага беларускага грамадзтва. Калі ЗША праявяць палітычную волю, а беларускае грамадзтва гвалтам змусіць "пяцёрку" вылучыць адзінага кандыдата, тады ў выбараў зьявіцца інтрыга, а ў Маскве пачнуць прыглядацца і да беларускай апазыцыі.

**Барыс Тумар**

## Лісты ў рэдакцыю

### Рашае вэртыкаль

Улада йдзе на прэзыдэнцкія выбары з прадчуваньнем перамогі. Сёньня ў яе руках усе козыры: тэлебачаньне, радыё, газэты зь вялізнымі накладамі, адданыя вэртыкальшчыкі. Расейскія тэлеканалы пачалі "раскрутку" цяперашняга прэзыдэнта ў часе ягоных візытаў. З дня ў дзень яны будуць паказваць Лукашэнку і казаць, што толькі ён здольны кіраваць нашай краінай. Шанцы апазыцыі на перамогу зьведзеныя амаль да нуля. Дапамагчы апазыцыі могуць хіба "вэртыкальшчыкі", якія разумеюць правальнасьць Лукашэнкавага кіраваньня, але не жадаюць страціць уладу, а таму запатрабуюць ад падначаленых правесьці выбары, "як трэба". Калі б апазыцыя дала ім пэўныя гарантыі, шанцы яе кандыдата падвысіліся б. Яны залежаць ад рашэньняў мясцовых "вэртыкальшчыкаў".

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

### Малады, харошы

Дасылаю анкету аб прагнозах на выбары. Упэўнены, што ўсе чытачы "НН" адкажуць на Вашыя запытаньні прыкладна як і я ды мая жонка. Але па-іншаму думае баба Ганна з Лукаўцаў, якую мы спаткалі ў аўтобусе. Яна вярталася з базару: "Вазіла прадаваць малако, бо хлеба незавошта купіць". Баба Ганна распавяла, што "рукі абарвала, пакуль данесла да прыпынку, а гэта са 2 км, чатыры 3-х літровыя бітоны малака". Паспачуваўшы, мы спыталі, за каго яна будзе галасаваць. "А за каго ж болей?" На пытаньне, чым яе так зачараваў Лукашэнка, адказала: "Я яго адразу ўпадабала. Малады, красівы. Увогуле я люблю Сталіна, Гарбачова і цяпер во... Лукашэнку! Усе нашыя будуць галасаваць за яго, бо больш няма за каго. Мы ня хочам быць рабамі Польшчы. І сын мой тожа будзе галасаваць, як я, за калгас. Бо можа, якніяк, з фэрмы скрасьці воз гною і загнаць на лецішчах – усё ж ня трэба браць на пляшку з маёй пэнсіі".

**Павал Бурдыка, Полацак**

# Міхал Плавец: "Апазыцыя інфільтраваная дзясяткамі агентаў"



ДЗЯНІС ШАРАВАР

**Прайшоў час, перш чым я зразумеў, што яны ўрэшце прыйшлі. Зьнікла напружанасьць, у якой я знаходзіўся апошнія некалькі месяцаў. Я яшчэ ня ведаў, што будзе далей, аднак, што яны калісьці прыйдуць, я ведаў дакладна. Выбачайце, забыўся іх прадставіць. "Яны" – супрацоўнікі беларускага Камітэту дзяржаўнай бясьпекі, КДБ.**

**Прыйшлі і супрацоўнікі АВІР, аддзяленьня візаў і рэгістрацыяў беларускага Міністэрства ўнутраных справаў. Яшчэ ў кватэры яны хацелі, каб я падпісаў два дакумэнты. Я не падпісаў. Сказалі, што я знаходжуся ў кватэры, у якой я не зарэгістраваны, чым парушаю рэжым знаходжаньня і існыя законы. Я жадаў сустрэцца зь юрыстам і прадстаўніком чэскай амбасады. Не дазволілі. Калі я адмовіўся падпісаць, далі мне пяць хвілінаў, каб я сабраў рэчы, і адвезьлі ў КДБ. Зачынілі ў сьледчым пакоі і зноў прымушалі падпісаць тыя дакумэнты. Нарэшце, дазволілі патэлефанаваць у амбасаду, і чэскі пасол у Менску Алеш Фойцік хутка-хутка быў у мяне. Параіў, каб я пачэску напісаў, што я ня згодны з фармулёўкай абвінавачаньня. Праз паўтары гадзіны я ўжо праходзіў мытны і пашпартны кантроль у варшаўскім аэрапорце. Толькі там я зноў адчуў, у якім я часе знаходжуся.**

## Я ДАПАМАГАЎ АПАЗЫЦЫІ

У Беларусь я ўпершыню завітаў у якасьці журналіста ў 1999 г. Ад сакавіка 2000 г. і аж да свайго выгнаньня я каардынаваў тамака працу Беларускага цэнтру фундацыі "Чалавек у нядолі". Мы дапамагалі апазыцыйным арганізацыям, адпраўлялі беларусаў у Чэхію, а чэхаў – у Беларусь, ладзілі стажы для журналістаў, эканамістаў, юрыстаў, судзьдзяў. Сьнежаньскі візыт прадстаўнікоў беларускай апазыцыі да прэзыдэнта Вацлава Гавэла – наша праца. Мы здымалі дакумэнтальныя фільмы для чэскага тэлебачаньня. Прэм'ера аднаго зь іх, прысьвечанага лёсу зьніклых людзей, адбылася 9 траўня.

Рэжым Аляксандра Лукашэнкі – апошняя дыктатура ў Эўропе. У 94-м большасьць верыла Лукашэнку. Людзі бачылі ў ім чалавека, які будзе змагацца з карупцыяй, навядзе парадак. Рэфармісты тады прайгралі.

Лукашэнка навязаў краіне зварот да сацыялістычнай эканомікі. Галоўнай перашкодай для яго стала палітычная апазыцыя. Праз год пасьля свайго абраньня ён абвясьціў першы рэфэрэндум, а праз два – яшчэ адзін. Людзі пачалі пратэставаць супраць сучаснага самадзержца.

У маёй памяці назаўсёды застанецца леташні Дзень Волі 25 сакавіка. З самай раніцы на галоўных менскіх вуліцах былі выстаўленыя тысячы спэцназаўцаў, а завулкі брынялі аўтобусамі і грузавікамі з падмогай. Былі вадамёты, нават бронетранспарцёры. Затрымалі за той дзень у адным Менску 420 чалавек, у тым ліку 40 журналістаў. Тады я зразумеў, што галоўная задача журналіста ў Беларусі – не перадаваць інфармацыю, а ўнікнуць затрыманьня.

## СТРАХ ПЕРАД ВЫБАРАМІ

Чаму мяне выгналі? Не пазьней за канец верасьня ў краіне маюць адбыцца прэзыдэнцкія выбары. Рэжым усяляк спрабуе абмежаваць альбо цалкам забараніць дзейнасьць апазыцыйных арганізацыяў. Гэта дэкрэт №8, загадкавыя ўварваньні ў сядзібы няўрадавах і праваабарончых арганізацыяў.

Апошні гіт перадвыбарных гульняў – стварэньне атмасфэры шпіёнаманіі. У апошні раз таленавітыя спэцслужбы выявілі замежнага агента 19 красавіка, яму пагражае ад 7 да 12 гадоў турмы. Не зьдзіўлюся, калі гэта хтосьці, хто рабіў такую самую працу, як я.

Дзейнасьць замежнікаў знаходзіцца пад каптуром КДБ. За людзьмі сочаць альбо адкрыта, каб іх застрашыць і панэрваваць, альбо таемна. Тэлефоны праслухоўваюцца, электронная пошта прачытваецца. Апазыцыя інфільтраваная дзясяткамі агентаў, людзі жывуць у атмасфэры страху, чакаюць, калі палец Вялікага брата ўкажа менавіта на яго. Людзі падманваюць адно аднаго, сочаць, адкуль потым зьявіцца фальшывая інфармацыя. Некаторыя зацягнутыя ў багну маны настолькі, што ўжо не адрозьніваюць, дзе праўда, а дзе – не.

Зь мяне, пэўна, хацелі зрабіць паказальны прыклад. Я іх ужо дастаў сваёй адкрытай дзейнасьцю па дапамозе апазыцыі, сваімі артыкуламі, фільмамі пра краіну, дзе заўтра ўсё яшчэ спачывае ў камуністычным учора.

* * *

*Калі супрацоўнікі КДБ зноў наведаюць апячатаную кватэру і агледзяць яе, яны напэўна знойдуць у замкнёным сэйфіку цыдулку з надпісам "Привет". Я іх сардэчна віншую з пасьпяховай апэрацыяй і дасылаю паведамленьне такім шляхам. А найбольшыя вітаньні сп.Сьпірыдонаву, аднаму з кіраўнікоў уварваньня.*

**Пераклад Беларускага Форуму ў Празе "Адраджэньне" паводле тыднёвіка *Refleks***

**Агляд сярэднеэўрапейскіх падзеяў**

# Абрадавіч зашмат кахаў, сэрбы зашмат ненавідзелі

**Летакі польскае кампаніі *"Lot"* неўзабаве могуць страціць права прызямляцца ў нью-ёрскіх аэрапортах.** Амэрыканскія жыды вымагаюць ад польскага ўраду кампэнсацыяў за страчаную імі ў часе вайны маёмасьць. Пытаньне тое даўняе — польскі бок абяцаў яго неяк вырашыць, а сам ціцком спрабаваў дамовіцца, каб амэрыканскі суд адхіліў габрэйскі пазоў. Але, здаецца, у судзе прайграюць. Калі Польшча адмовіцца плаціць, жыды пагражаюць запатрабаваць канфіскацыі польскай маёмасьці ў Амэрыцы.

**Палякі спрабуюць прыцягнуць да адказнасьці жаўнераў Украінскае Паўстанцкае Арміі, што зьнішчалі польскае цывільнае насельніцтва падчас польска-ўкраінскае вайны 1942—44 г.** Сабраўшы больш за 450 сьведчаньняў відавочцаў, польскі Інстытут Нацыянальнае Памяці перадае адпаведныя факты ў суд. Сьведчаньні пра злачынствы шукаюць і іншыя фінансаваныя дзяржавай і прыватнымі фундатарамі арганізацыі – *"Karta"*, Рада аховы мясьцінаў барацьбы й пакутніцтва. Фактаў знойдзена столькі, што, на думку польскіх юрыстаў, ёсьць падстава для ўзбуджэньня крымінальных справаў.

Адказаць на гэта з Кіева могуць адпаведным абвінавачаньнем на адрас палякаў з Арміі Краёвай, што таксама нішчылі ўкраінскія вёскі. Пра АКоўскія ж злачынствы на беларускай Беласточчыне шмат пішуць беластоцкія беларускія выданьні.



Вук Абрадавіч

**Кіраўнікі 10 дзяржаваў нашага рэгіёну, што мерацца ўвайсьці ў *NATO*, сустрэліся ў Браціславе.** Сваю падтрымку ўдзельнікам сходу выказаў прэзыдэнт Буш. Мяркуецца, што першымі ў *NATO* ўвойдуць найбольш падрыхтаваныя для гэтага Славенія й Славаччына. Славаччына ўмацуе ўсходнюю сьцяну блёку і злучыць Вугоршчыну з астатнімі краінамі хаўрусу. Сяньняшні ўрад М.Дзурынды, з ініцыятывы якога і адбылася сустрэча, праводзіць энэргічную палітыку збліжэньня з *NATO*, але, відаць, не пераможа чарговых выбараў. Ягоныя апанэнты-папулісты таксама пранатаўскія.

**Не сябруюць з суседзямі басьнійскія сэрбы.** У сваёй сталіцы Баня-Луцы яны сарвалі цырымонію пачатку рэканструкцыі старадаўняй мячэці, зруйнаванай у часе вайны. Гэта самы сур'ёзны выбух гвалту ад часу сканчэньня баёў у 1995 г. Кіраўнікі Сэрбскай рэспублікі ў Босьніі ўсяляк працівіліся аднаўленьню храма пасярод места, прапануючы перанесьці яго на ўскраіну. Не пасьпеў прадстаўнік ААН пачаць сваю прамову на цырымоніі, як сэрбы прарвалі паліцэйскі кардон і закідалі басурманаў камянямі, яйкамі, гранатамі са сьлезацечным газам ды спалілі аўтобусы й машыны, якімі прыехалі госьці.

**Пераможных югаслаўскіх дэмакратаў напаткаў сэксуальны скандал.** Галоўнага тамтэйшага сацыял-дэмакрата віцэ-прэм'ера Вука Абрадавіча абвінавацілі ў нягодных паводзінах у дачыненьні да кабетаў. Абрадавіч (у свой час — наймалодшы генэрал югаслаўскага войска) паводзіўся з падначаленымі кабетамі, як маньяк. Зважаючы на папулярнасьць і высокі аўтарытэт генэрала, ён узначальваў камісію, што разьбірае фінансавыя злоўжываньні колішняга рэжыму. Чапляўся ён як да калег па ўрадзе, гэтак і да аднапартыек.

Абрадавіч апраўдваецца, што яго хочуць дыскрэдытаваць, бо, маўляў, дзейнасьць ягонае камісіі пагражае многім буйным чыноўнікам і бізнэсоўцам.

**Сяргей Рак**

**Водгукі**



# Сьведчу: палякаў расстрэльвалі пад Воршай

**Артыкул Сямёна Букчына "Палякі дабіваюцца праўды" з пазамінулага нумару "НН" мне хацелася б дапоўніць наступнымі зьвесткамі. Я думаю, што Кабыляцкая гара — месца масавых расстрэлаў пад Воршай у даваенныя часы, стала апошнім прытулкам для многіх палякаў, закатаваных НКВД. Прывяду толькі вядомыя мне факты.**

Падчас будаўніцтва чыгункі праз Кабыляцкую гару на пачатку 1980-х знайшлі дзьве вялікія магілы з парэшткамі людзей. Тыя нешматлікія сьведкі, што бачылі гэта, сьцьвярджаюць, што там былі пахаваныя вайскоўцы. У яме было шмат вайсковых скураных рамянёў і партупэяў. Гэты раён адразу ачапілі, і парэшткі зьбіралі вайскоўцы Унутраных войскаў, тады яшчэ СССР. Да гэтага часу ўлады імкнуцца любымі сродкамі схаваць праўду пра тое, хто ж быў пахаваны ў гэтых вялікіх супольных магілах. Можа там былі тыя польскія афіцэры, што працавалі ў Асінторфе. Бо гэта зусім побач.

У 1988 г. я даведаўся, што ў вёсцы Марцюхова Талачынскага раёну жыве стары, якога перад самай вайной мелі расстраляць на Кабылянскай гары, як ён казаў, разам з палякамі.

У той час я зрабіў памылку, распавёўшы пра гэтага цікавага старога шмат каму са свайго акружэньня. І калі я паспрабаваў сустрэцца і паразмаўляць з гэтым чалавекам, дык ён наадрэз адмовіўся са мной гутарыць, сказаўшы, што яму напомнілі пра тую падпіску аб маўчаньні, якую ён некалі даваў.

Гэтага старога не расстралялі тады толькі таму, што ён быў чыгуначнікам і раптоўна прыйшоў загад усіх чыгуначнікаў вызваліць.

Я думаю, што ў КДБ ёсьць зьвесткі пра большую частку тых людзей, якіх расстралялі на Кабыляцкай гары пад Воршай.

**Алесь Сярожкін, Ворша**

*Колішняя сталіца савецкай Украіны Харкаў выглядае больш пампэзна, чым Менск*

Алесь Аркуш

# Паэзія нумар адзін

**Найбольшая ў сьвеце плошча; велічныя, як эгіпецкія піраміды, былыя ўрадавыя будынкі; бронзавы Тарас Шаўчэнка; Опэрны тэатр – амаль як наш Палац Рэспублікі. Тут і людзей жыве болей, чым у Менску, і мэтро мае чатыры лініі. Аднак што хаваецца за пампэзнасьцю? У Харкаве сёньня выходзіць толькі адна маленькая ўкраінскамоўная газэтка, нават дзьвюхмоўных няма. Касэтаў і CD з украінскай музыкай не відаць у шапіках. На вуліцы дзяржаўнай мовы практычна не чуваць. Гэткія ж, як у Менску, праблемы з нацыянальнай школай.**

Затое ў Харкаве штогод адбываюцца літаратурныя, музычныя й тэатральныя фэсты. Генэратарам харкаўскага літаратурнага жыцьця зьяўляецца паэт, намесьнік старшыні Асацыяцыі ўкраінскіх пісьменьнікаў (ня блытаць з Саюзам пісьменьнікаў) Сяргей Жадан. Сёлетні фэст меў назву "Паэзія нумар адзін" і праходзіў у межах Харкаўскага міжнароднага кніжнага кірмашу "Сьвет кнігі – 2001" у будынку Опэрнага тэатру. Былі запрошаныя паэты й рок-музыкі з Украіны, Расеі, Беларусі і Літвы. Літоўцы не прыехалі. У склад беларускай дэлегацыі ўвайшлі Славамір Адамовіч, Андрэй Хадановіч і рок-гурт *"Zet"*.

ТВЛ усталявала сувязі з Харкавым яшчэ ў 1994 г. Творы "тэвэлаўцаў" пэрыядычна друкаваліся ў харкаўскім часопісе *"Український Засів"*. Рэдактар пэрыёдыка Ігар Бондар-Тэрэшчанка і Сяргей Жадан у свой час прыяжджалі ў Полацак на тэвээлаўскую літаратурную канфэрэнцыю.



Першы дзень фэстывалю быў літаратурны. У прэсавым цэнтры кніжнага кірмашу адбыліся прэзэнтацыі анталёгіі сучаснай украінскай паэзіі *"Протизначення"* (украінскай і нямецкай мовамі) і маскоўскай паэтычнай анталёгіі *"Время "Ч": стихи о Чечне и не только"*. Пасьля на плошчы перад Опэрным удзельнікі фэсту чыталі свае вершы. Беларусаў віталі цёпла. Потым у Літаратурным музэі адбылася паэтычна-музычная вечарына. Беларусы выступалі апошнімі. Я нават прытаміўся чакаць свайго выступу.

Другі дзень фэстывалю быў музычны. Спачатку рок-канцэрт адгрукатаў у малой залі Опэры. Увечары сьвята працягвалася ў маладзёвым клюбе *"Живіт"*. "Зэтаўцы" крыху ўзбадзёрылі харкаўскую кансэрваторскую музычную тусоўку. Іхная музыка, з лацінаамэрыканска-ірляндзкімі алюзіямі, гучала ва Ўкраіне надзённа, амаль каньюнктурна.

Гэтым жа днём Харкаў наведаў Леанід Кучма. Прэзыдэнт вырашыў асабіста павіншаваць тутэйшага япіскапа РПЦ з 70-годзьдзем. Юбілейная ўрачыстасьць таксама ладзілася ў Опэрным. Нечаканы візыт Кучмы скараціў працу кніжнага кірмашу амаль на тры гадзіны. Кнігавыдаўцам загадалі тэрмінова вызваліць памяшканьне. На вечаровым рок-канцэрце дзясяткі агітатараў раздавалі антыкучмаўскія газэткі.

Сьвятлана Алешка, мастацкая кіраўнічка тэатру "Арабэскі", адная з сузаснавальнікаў фэстывалю, два дні вадзіла мяне па мясьцінах, зьвязаных зь Міколам Хвылявым (1893—1933), які, як выявілася, быў ня толькі клясыкам украінскай літаратуры, але й палітолягам. Сутнасьць ягонай тэорыі — "хвылявізму" — у тым, што Ўкраіна, каб стаць вялікай дзяржавай, павінна прайсьці капіталістычны пэрыяд развіцьця пераскоранымі тэмпамі. Хвылявы распрацаваў тэорыю барацьбы дзьвюх культураў – украінскай і расейскай, пры якой украінская арыентуецца на Захад, праланаваў стварыць "адзіны нацыянальны фронт". Пасьля таго як нумар часопісу "Ваплітэ" з другой часткай ягонага раману "Вальдшнэпы" быў канфіскаваны НКВД і зьнішчаны, у 1933 г. Хвылявы застрэліўся. А тэатр "Арабэскі" названы паводле назвы аднаго з апавяданьняў харкаўскага клясыка.

Могілкі, на якіх пахавалі пісьменьніка, за савецкім часам зруйнавалі. Нядаўна магілу аднавілі, праўда ўмоўна, бо дакладна вызначыць месца ягонага пахаваньня немагчыма. Сёньня ва Ўкраіне творчасьць Хвылявога вывучаюць у школе. У дапаможніку, у прадмове да ягоных твораў, напісана: "Можа, ты – будучы мастак і напішаш нам партрэт "свайго Хвылявога". Можа, ты створыш сцэнар фільму пра гэтае поўнае сьмелага парываньня жыцьцё? Можа, сам станеш пісьменьнікам? Ва ўсякім разе, не заставайся незацікаўленым". Так ствараецца нацыя. А ў нас Ларысу Геніюш выдзіраюць з школьнай праграмы.

Адмыслова да фэсту быў выдадзены зборнік вершаў ягоных удзельнікаў у перакладах ува ўкраінскую мову. Зборнік пачынаецца нью-ёрскім вершам Адамовіча пра настальгію па Беларусі.



**Алесь Аркуш — паэт, галоўны рэдактар часопісу "Калосьсе". Жыве ў Полацку.**

**ФРАНКАФОБІЯ**



**спэцыяльны нумар "НН", прысьвечаны Францыі і беларуска-францускім дачыненьням**

**Ігар Лялькоў** "Краіна нашых няспраўджаных надзеяў. Новыя дакумэнты па гісторыі стасункаў БНР з Францыяй у 1919–1920 гг."

**Андрэй Катлярчук** "Прыказкі беларусаў аб французах з тлумачэньнем гістарычнага паходжаньня й сэнсу"

**Адам Глёбус** "Парыж не стамляе"

**Жаашэн Дзюбэле** "Не пакідайце ж мовы нашай францускай!"

# Бясьпека Амэрыкі

## будзе гарантавацца новай сыстэмай проціракетнай абароны

Раман Якаўлеўскі

Сёньня амэрыканцам крыўдна: Расея, што стогне пад цяжарам старых пазыкаў і новых праблемаў, выявілася найлепей абароненай ад ракетна-ядравага нападу – сыстэма супрацьпаветранай абароны Масквы (праўда, толькі Масквы, а ня ўсёй краіны) па-ранейшым ня мае аналягаў у сьвеце. Анічога роўнага сыстэме супрацьпаветранай абароны Масквы ў Амэрыцы пакуль ня створана, тады як пагроза нападу на тэрыторыю ЗША сродкамі зброі масавага зьнішчэньня захоўваецца. Таму ўдасканаленьне ўласнага "ядравага шчыта" разглядаецца ў Вашынгтоне як аб'ектыўная патрэба.

У сваім апошнім выступе, прысьвечаным пытаньням нацыянальнае сыстэмы супрацьракетнай абароны, прэзыдэнт Буш падкрэсьліў, што палітычнае рашэньне пра гэта прынятае (Расея і яе сатэліты спадзяваліся, што пытаньне застанецца яшчэ на гэтай стадыі), і што цяпер удасканаленьне сыстэмы супрацьпаветранай абароны – справа тэхнікі.

У выніку гэтага рашэньня Буша Расея будзе вымушаная разьвітацца з такім атрыбутам звышдзяржавы, як стратэгічныя ўзбраеньні. Новая амэрыканская сыстэма бясьпекі мінімізуе іх значэньне. Пасьля гэтага ў Расеі застанецца толькі адзін атрыбут звышдзяржавы – месца сталага чальца Рады Бясьпекі ААН і права вэта на рашэньні Рады.

Расея паступова ссоўваецца з цэнтральных пазыцыяў у палітыцы Вашынгтона на другасныя, а то й трэцярадныя ролі ў сьвеце, дзе амаль неабмежавана дамінуе Амэрыка.

Гэтую тэндэнцыю канстатуе, часам нават публічна, афіцыйная Масква і — моўчкі — пацьвярджае Менск. Актыўнасьць абароннага мысьленьня славянскіх хаўрусьнікаў выяўляецца ў стварэньні сумеснай сыстэмы супрацьпаветранай абароны. Пры гэтым яны не хаваюць, супраць каго сябруюць. Беларускія ўлады адкрыта спэкулююць тэмай натаўскіх бамбаваньняў Бялграду. Яны мяркуюць, што расейска-беларуская супрацьпаветраная абарона зробіць іх паўтарэньне немагчымым.

А тым часам асноўным аб'ектам замежнай палітыкі ЗША робіцца Кітай, эканамічны і вайсковы патэнцыял якога бурна расьце. Відаць, у бліжэйшыя дзесяцігодзьдзі асноўная ўвага Злучаных Штатаў будзе засяроджаная на ім. Створаная ЗША і СССР дзеля падтрыманьня "халоднага міру" стратэгія ўзаемнага гарантаванага зьнішчэньня ў адносінах з Кітаем непрымальная. Бо для мільярднай дзяржавы гібель сотні-другой мільёнаў выглядае ня так безнадзейна, як для ЗША і Расеі. Амэрыканцы з дапамогай новай сыстэмы супрацьракетнай абароны спадзяюцца нэўтралізаваць хаця б тыя колькі дзясяткаў ракетаў, здольных дасягнуць заходняга ўзьбярэжжа ЗША, якія цяпер мае кітайскае войска.

Удасканаленьне амэрыканскай сыстэмы бясьпекі абурыла прыхільнікаў "шматпалярнага міру". Яны зноў пачалі сьлізгаваць прымакоўскую ідэю стварэньня восі Пэкін-Дэлі-Масква, да якой цяпер некаторыя стратэгі далучаюць яшчэ Менск і Тэгеран.

Гэты праект абсурдны ўжо хаця б таму, што Дэлі ня пойдзе на саюз з Пэкінам. Дый амэрыканскую ідэю супрацьракетнай абароны кіраўнік індыйскага абароннага ведамства нядаўна ўхваліў. Так што ўсе модлы аб шматпалярным міры, якія Лукашэнка – старанны вучань Прымакова — паўтарау і паўтарае пры нагодзе і безь яе, почасту выглядаюць карыкатурна. Дый на апошні візыт ППРБ у Пэкін кітайскія СМІ рэагавалі даволі стрымана, без усякіх намёкаў на "стратэгічнае значэньне", пра якое трубіла нашая афіцыйная прапаганда. Кажучь, цікавасьць кітайцаў да беларускіх тэхналёгіяў, якая дасёньня вызначала двухбаковыя адносіны, вычарпаная. Таму на інтарэсы Менску і нават Масквы кітайцы, у выпадку неабходнасьці, папросту ня зьвернуць увагі. Гэткая асаблівасьць усходняга мэнталітэту і азіяцкай палітыкі. Тое самае тычыцца ўсіх краін-"ізгояў", ад якіх амэрыканцы, дарэчы, і зьбіраюцца захінуцца новай сыстэмай проціракетнай абароны. Ізгоі — гэта Іран, Сырыя, Лібія, Паўночная Карэя і Ірак. Якраз зь імі апошнім часам сябруюць Расея і Беларусь. Прычым апошняя даволі часта адыгрывае ролю санітаркі на мінным полі.

Цягнучыся ў абозе расейскай замежнай палітыкі, афіцыйны Менск спрабуе выяўляць уласную ініцыятыву, спрабуючы ўбіць клін паміж ЗША і іх хаўрусьнікамі па *NATO*. З-за маштабнасьці палітычнага мысьленьня менскіх стратэгаў іхныя дзеяньні абмяжоўваюцца "пературахваньнем" кіраўнікоў дыпляматычных місіяў, акрэдытаваных у Беларусі, ды рыторыкай на адрас праамэрыканскіх сілаў ува Ўкраіне.

Аднак прапанаваныя Пуціным напрацоўкі ў галіне нестратэгічнай супрацьпаветранай абароны ня вельмі зацікавілі эўрапейцаў. Пры гэтым яны ўсё больш прыхільна ўспрымаюць прапановы ЗША па буйнамаштабным абаронным пераўзбраеньні эўрапейскіх краінаў *NATO*. З амэрыканскай, вядома, дапамогай. Тым часам вашынгтонская адміністрацыя пад абарону новай сыстэмы бясьпекі зьбіраецца залучыць ня толькі заходнеэўрапейскія краіны, але й Расею. У Токіа адбудуцца міжнародныя кансультацыі па гэтым пытаньні. Дэлегацыя Дзярждэпартамэнту ЗША і Пэнтагону неўзабаве наведае Маскву.



У Расеі нават у стратэгічных ракетных войсках шмат што пабудавана на выкарыстаньні рабскай фізычнай працы.

А вось пра такую эўрапейскую сталіцу, як Менск, мовы ў гэтым пляне няма. Між тым, у беларускай сталіцы месьціцца штаб-кватэра СНД і жыве старшыня "вышэйшай рады расейска-беларускай саюзнай дзяржавы", які ў выпадку пагрозы з-за мяжы можа стаць старшынём рады абароны і ўзначаліць расейска-беларускую вайсковую групоўку. Гучыць маштабна. А напраўдзе... Вось такі факт: з 1997 г. у Расеі штогод рэгортваецца новы полк міжкантынэнтальных балістычных ракетаў "*Тополь-М*". У першым было 8 пускавых установак плюс 2 навучальныя, у другім — 10, у трэцім... — 4. Такія цяпер рэальныя магчымасьці расейскай абаронкі.

Беларуская тут увогуле ня ў лік. Але беларускія саюзьнікі, разьвіваючы вайскова-тэхнічныя стасункі з краінамі-ізгоямі, могуць зблытаць расейцам карты ў складанай гульні вакол амэрыканскай супрацьракетнай абароны. Ці адпавядае такая палітыка нацыянальным інтарэсам Беларусі? Пытаньне рытарычнае.

У часе спрэчкі вакол сыстэмаў бясьпекі сталася зразумелым, што хутка адновіцца гонка касьмічных узбраеньняў. Амэрыка вырашыла ліквідаваць сваё адставаньне ў галіне супрацьракетнай абароны. І гэтая праблема стала галоўным болем палітыкаў і вайскоўцаў Амэрыкі, Азіі, Эўропы і Расеі.

# Выйдзе, як заўсёды

Працяг са старонкі 1.

Ідэя прызначэньня Чарнамырдзіна ўвойдзе ў аналы расейскае дыпляматыі, аднак ці будзе зь яе толк?

Чарнамырдзін пасьпяхова ўзбагачаўся. Ягоныя ж посьпехі ў дзяржаўных справах сьціплейшыя. У часе ягонага прэм'ерства ня выйшла з крызысу эканоміка, ён не перамог Басаева ў Будзёнаўску, ня змог стварыць жыцьцяздольную партыю, не ўратаваў Мілошавіча ад паразы ў Косаве. Лёгка ўзбагаціцца, распараджаючыся дзяржаўным газавым краніком! "Зьвесьці" Ўкраіну "Віцю" будзе цяжэй, калі ўлічыць, што супраць яго будзе жорстка граць амбасадар ЗША ў Кіеве Карлас Паскуаль, чый капітал у тысячы разоў саступае чарнамырдзінскаму, але талент – нараўд ці. Як паказала гісторыя з двума Паўламі, Лазарэнкам і Барадзіным, Амэрыка пры патрэбе знаходзіць для такога змаганьня ўнутраныя рэзэрвы.

Таму ўкраінскія нацыянал-дэмакраты яшчэ будуць мець нагоду прыгадаць геніяльную чарнамырдзінскую фразу, у якой – уся Расея: *хотели, как лучше, а вышло, как всегда.*

**Барыс Тумар**

# Грамадзянская мабілізацыя

## *Славацкі досьвед пераходу да дэмакратыі*

Уладзімер Роўда

кіраўнік аналітычнае групы Асамблеі Няўрадавых Арганізацыяў, палітоляг

Славаччына – невялікая дзяржава з насельніцтвам 5,3 мільёна чалавек. Яна набыла незалежнасьць 1 студзеня 1993 г. пасьля "аксамітнага разводу" з Чэхіяй, якой зараз значна саступае па ўзроўні эканамічнага разьвіцьця. Краіна аграрна-індустрыяльная, большая частка насельніцтва жыве ў невялікіх гарадох і мястэчках. Наступствы сацыялістычнай індустрыялізацыі, калі было набудавана шмат прадпрыемстваў-гігантаў, запавольваюць рынкавыя рэформы.

Славаччына – парлямэнцкая рэспубліка. Да верасьня 1998 г. дэмакратычныя прынцыпы парушаліся аўтарытарным рэжымам прэм'ера Мэч'яра, партыя якога, нібы на кпін названая Рухам за дэмакратычную Славаччыну *(HZDS)*, прыйшла да ўлады ў 1994 г. (калі й Лукашэнка).

Выбары 1998 г. скончыліся перамогай Славацкай дэмакратычнай кааліцыі, што складалася з 4-х апазыцыйных Мэч'яру партыяў. Разам яны атрымалі канстытуцыйную большасьць у парлямэнце (93 месцы з 150) і сфармавалі ўрад на чале зь Мікулашам Дзурындам. У краіне былі адноўленыя дэмакратычныя прынцыпы і нормы, зрушыліся зь мёртвага пункту эканамічныя рэформы, адкрыліся магчымасьці для інтэграцыі з эўрапейскімі структурамі. Гэтыя падзеі называюць другой "аксамітнай рэвалюцыяй". Яны надалі новы імпульс абнаўленьню краіны.

Асноўную ролю ў Верасьнёўскай рэвалюцыі адыграў славацкі "трэці сэктар" — г.зн. недзяржаўныя, незалежныя грамадзкія аб'яднаньні. Ён правёў агульнанацыянальную Грамадзянскую Кампанію *(Obcianska Kampan' 98*, або *OK'98)* па інфармаваньні, навучаньні й мабілізацыі выбарцаў (84% славакаў прыйшлі галасаваць), назіраньні за ходай выбараў і падлікам галасоў. *OK'98* прадэманстравала магчымасьці грамадзтва ўплываць на палітычны працэс, зьмяняць настроі людзей і іхнюю палітычную культуру. (У Славаччыне дзейнічае болей за 12000 няўрадавых арганізацыяў, што займаюцца адукацыяй, экалёгіяй, сацыяльнымі пытаньнямі, моладзевымі праблемамі, абаронай правоў чалавека і г.д.)

Ідэя злучыць намаганьні няўрадавых арганізацыяў пры падрыхтоўцы выбараў нарадзілася яшчэ ўлетку 1997 г. Асноўныя кірункі кампаніі *OK'98 (Obcianska Kampan)* былі распрацаваныя ў студзені 1998 г. — задоўга да выбараў. Кампанія адбывалася ў два этапы: першы і галоўны — падрыхтоўка да парлямэнцкіх выбараў у верасьні 1998 г.; другі — падрыхтоўка да мясцовых выбараў у сьнежні 1998 г. Афіцыйна аб пачатку *OK'98* абвесьцілі 3 сакавіка 1998 г. – аж за паўгоду да выбараў.

За чатыры гады знаходжаньня пры ўладзе Ўладзімера Мэч'яра краіна апынулася ў ізаляцыі і адстала ў разьвіцьці ад суседзяў. Грамадзяне баяліся, што выбары будуць сфальсыфікаваныя і адмаўляліся браць удзел у галасаваньні. Рэжым Мэч'яра ўжо спраўдзіў свае "маніпуляцыйныя здольнасьці" падчас травеньскага рэфэрэндуму 1997 г. аб сыстэме выбараў прэзыдэнта краіны і сяброўстве ў *NATO*. Акрамя таго, было прынятае новае выбарчае заканадаўства, якое зрабіла няроўнымі ўмовы вядзеньня перадвыбарнай агітацыі, — абмяжавала магчымасьці прыватных сродкаў масавай інфармацыі, а дзяржаўным СМІ, у тым ліку электронным, надала шырокія паўнамоцтвы. Усё гэта стварала небясьпеку канчатковага пераходу краіны да таталітарнага рэжыму.



З самага пачатку "трэці сэктар" Славаччыны выступіў з ідэяй правядзеньня ***непартыйнай палітычнай кампаніі***. Актывісты НА не павінны былі ставаць на бок той ці іншай палітычнай партыі ці блёку. Кіраўнікі *OK'98* абавязаліся не вылучаць сваіх кандыдатураў у дэпутаты.

Працяг на старонцы 6.


IREX-PROMEDIA

# Урок Памяці

Зьміцер Бартосік

Не залюбіў я савецкіх вэтэранаў яшчэ са школы. З травеньскіх урокаў Памяці, падчас якіх абчапляныя ўзнагародамі, зласнатварыя пыхлівыя старыя нясьціпла распавядалі нам пра свае подзьвігі — штогод усё больш фантастычныя. Мы, дзеці, адчувалі няшчырасьць.

Аднак ёсьць сярод вэтэранаў іншыя людзі. Людзі, якія ніколі без дай прычыны не гаварылі пра сваё геройства. Такі мой сусед Аляксей Пятровіч – мілы чалавек, вясёлы гаварун, сталы чытач “НН” і слухач “Свабоды”, які штодня робіць ля нашага пад’езду “эўропу” (то ўслончыкі пафарбуе, то пасадзіць нешта). Травеньскай раніцай я ўпершыню ў жыцьці пабачыў яго з ордэнскімі планкамі на пінжаку. «Нямеччыну браў», — адказаў на мой зьдзіўлены погляд Пятровіч і запрапанаваў пайсьці на сход у Палац Рэспублікі. Ня столькі паслухаць нашага фюрэра, колькі паглядзець інтэр’еры. Я з ахвотаю пагадзіўся.

Як ні дзіўна, мой бел-чырвона-белы значак не перашкодзіў мне прайсьці праз кантроль. Сівыя франтавікі таксама глядзелі на яго хутчэй з павагаю. Блукаючы па гіганцкіх мармуровых фае, сусед Пятровіч пачаў згадваць тыя пераможныя дні, калі баяліся ня немцаў, а СМЕРШаўцаў, калі мірнае насельніцтва сьпешна ўцякала са сваіх дамоў, каб не замінаць вызваліцелям іх рабаваць, і калі, як ніколі, панавала сапраўдная радасьць і гонар за сваё сёньня й, вядома, сьветлае заўтра.

Маё месца было ў амфітэатры. Побач са мною сеў клясычны вэтэран. Мэдалі, нібы дасьпехі, укрывалі ягоныя грудзі, сівыя пышныя бакенбарды выдавалі ў ім найменей палкоўніка, а суворы погляд з-пад калматых броваў красамоўна сьведчыў пра ого-го які камандзірскі голас. Я дастаў апошнюю «НН». Як толькі яна не закурэла пад ягоным позіркам!

*«Президент Республики Беларусь Александр Григорьевич Лукашенко»,* — ўрачыста абвесьцілі з дынамікаў. Вялізная заля, нібы па камандзе, устала. А я для сябе вырашыў яшчэ па дарозе: устаю толькі падчас Хвіліны маўчаньня. Мой сусед-вэтэран быў памкнуўся ўзьняцца перад Лукашэнкам разам з усімі, але, стрэльнуўшы вачыма ў мой бок, застаўся сядзець. Яшчэ сіплы голас не прамовіў: «Садзіцесь пажалуста таварышчы» — а паміж намі ўжо ўсталяваўся нейкі цёплы кантакт. Як ад рукацьня з паважаным табою чалавекам.

Той, хто выйшаў на сцэну, гаварыў доўга й нецікава. Ён бічаваў і праклінаў усялякіх гразных атшчапенцаў, насьледнікаў цех гітлераўскіх халуёў ды іхных заакіянскіх хазяеў. Гразіўся даць адпор, кляўся, што ў нас Югаславіі ня будзе, і абяцаў «правесьці ваенныя учэнія на граніцэ сь Літвой».

Я слухаў і думаў: як яму бракуе вайны ці хоць якой вайсковай пагрозы! Жыць ён ня можа без мабілізацыяў і нябачных франтоў. Мне было па-чалавечаму шкада гэтага палкаводца, на якога ніхто ня хоча нападаць, армія якога вaюе зь непаўналетнімі дзяўчаткамі ды адзінокімі палітыкамі. Хоць сам усяму сьвету вайну абвяшчай...

Я вельмі ўдзячны суседу-франтавіку, што пабыў на тым сходзе. Ён дапамог мне адчуць сорам за сябе й за свае непрыгожыя думкі пра людзей, якія паўстагодзьдзя таму прагналі адсюль вайну. Дай Бог ім здароўя. І каб не было вайны. Як бы каму гэтага ні хацелася.

# АДПЕРАМАГАЛІ МЫ СВАЁ

Вячаслаў Дубінка

**Зь Менску ў Слуцак ежджу амаль 50 гадоў. Я безьліч разоў пераадольваў гэты стокілямэтровы адмерак. Апошняя паездка — 9 траўня. І што ж мне бачылася, што засталося ў дарожным нататніку?**

*За Самахвалавічамі* непадалёк ад Пяцеўшчыны на могілках атабарыліся цыганы. Прыімчалі на хуткіх і дарагіх конях-“мэрсэдэсах”, расклалі абрусы. Да чаркі і скварка. І памінальная малітва, і сустрэча са сваякамі.

*Каля павароткі на вёску Крупніца* добра падпіты дзядок спрабуе ўзьлезьці на ровар і, не ўтрымаўшыся на нагах, валіцца – можна і адпачыць, адзначыўшы “чырвоны” дзень календара.

*Някідкая вёска Вішнёўка.* Здарожаны дзядок у паношаным афіцэрскім кіцелі з пачарнелымі ад часу мэдалямі. Выйшаў з хаты падзівіцца дарожнай мітусьні. А дзівіцца няма на што.

Легкавікоў мала: па бульбу і сала на вёску джгаць ранавата. Нібы асірацелыя, вёсачкі *Баханы, Жмакі; Басманаўка.* Ад Менску ўсяго 30 км, але правінцыйнасьць адчуваецца. Людзей не відаць, асірацелая шаша, прысады. За вёскамі шнуры гародаў, дзе ўвіхаюцца кабеты. І праўда, народ любіць гарбатую бабу. Колькі іх я бачыў 9 траўня! Веснавы дзень год корміць. Будзе і бульбачка, і цыбуля з часныком у вясёлым хаўрусе.

*У Маркаўцах* кідаецца ў вочы ўтульны дамок у палоне квецені. На зэдліку каля дарогі – сівая бабуля ў ватоўцы. Побач вядзерцы з бульбай, мочанымі яблыкамі. Калі ласка, пакупнік. Бяры, частуйся. І табе наедак – і мне на хлябец.

Азярцо каля *Беркаўцаў* прывабіла колькі рыбакоў, якія нерухома чакаюць на сваё рыбацкае шчасьце.

Вёскі *Каралёва, Дзешчанка, Цюлень, Янчанка, Валоўкі* ў цішы, у бязьлюдзьдзі. Анігадкі пра “чырвоную” дату. Ні сьцягоў, ні вясёлых сьпеваў, ні гаманы. Сьцішаныя, нібы перад навальніцай.

*Каля вёскі Цяплень* - указальнік: піянэрлягер “Зарніца”. Няўжо з эсэсэраўскіх часоў? А мо слуцкім лукамольцам падарунак?

*Вось і Шышчыцы.* Да Слуцку закаціцца можна. У першыя дні вайны мой бацька ехаў зь іншымі навабранцамі ў Менск на бартавіку і трапіў тут пад агонь нямецкіх штурмавікоў. Быў паранены і колькі дзён туляўся па лесе.

Не назіралася сьвята і ў *Азярцах, Крывой Градзе, Загрэблі, Белай Лужы.*

Каля *Гацукоў* белы конь з доўгай грывай чакае гаспадара. Крыху воддаль – чарга задрыпаных бартавікоў з навакольных калгасаў. Ім давядзецца чакаць не адну гадзіну, пакуль торфазавод не сыпане ім згодна зь лімітным сьпісам тону-паўтары паліва. Каму сьвята, а каму... Дарагі брыкет на неласкавую зіму.

Нарэшце і Слуцак. Бывай, спадарожны, – вадзіцель трэйлера паімчаў на Мікашэвічы і далей, аж на Запарожжа.

Вуліца 14 партызанаў. Брацкая магіла. Вэртыкальная заплянавана-прымусовая імпрэза. Буфэт, дзе і чарка на разьліў, і закусь *“не отходя от кассы”.* Каму “сто грамаў” – лепшы падарунак на сьвяты, а каму дай, слоўца сказаўшы, гарачыя воплескі зарабіць. Усё, як калісьці. Раённы вэртыкальны славіць вядома каго. Вэтэран голасам зампаліта гукае сьціснуць кулакі супраць вядома каго і стаць плячо ў плячо вядома з кім. Гучнае слова галасістае лукамолкі свае, слуцкае гадоўлі, і хвалюючыя клятвачкі школьнікаў-выдатнікаў.

Крыху воддаль, на сьвежагаблянай лаве купка вэтэранаў. У строях застойных часоў, з далёка не сьвяточнымі тварамі. Іду бліжэй, сядаю побач, слухаю. Люблю я вэтэранскія спрэчкі-тусоўкі-прыгадкі.

– Мне па гуманітарнай лініі дарунак уручылі, – хваліцца адзін. – Дзьве кілі мукі, рыбныя кансэрвы, кава ўроссып, пячэньне, мыдла і папера, каб рукі выціраць...

– Мо ты пераблытаў, – іранічна перабівае сусед, пэўна з зайздрасьці, – ня рукі, а гэта самае...

– Вы каля штабоў ды складоў аціраліся, дык вам і гумдапамога прэ, а я ў акопах вошай карміў, мне толькі пяць тысячаў лукашэнкаўскіх перапала... Пляшка гарэлкі і палка каўбасы...

На скрыжаваньні вуліцаў стаіць бэтонная, тыповае клёпкі аграмадная цётка зь вянком у руках.

Пытаюся ў падпітага дзецюка:

– Што гэта за помнік?

– Гэта ж Радзіма-маць, тваю маць, сьляпы...

Добра сказаў, лепей ня трэба.

На вуліцы Лібкнэхта мяне вітае бэтонны даўбель – жаўнер з аўтаматам, падобным да тронку калаўрота. Зьляпілі пяць пяцігодак таму, а вось парамантаваць, дагледзець як сьлед – рукі не даходзяць. Такіх тыповых бэтонных даўбеляў на Случчыне – не зьлічыць. І ў Амговічах, і ў Клешаве...

На вуліцы Леніна, якраз насупраць парку культуры й адпачынку, заўважаю ладны помнік, зьлеплены параўнальна нядаўна.

– Можна пытаньне да вас? – спыняю сівога з выпраўкай у вайсковым кіцелі. – Каму і за якія ласкі гэты помнік?

– Как эта кто? Вы што ні відзіце? Эта жа Жуков! Велікій рускій палкаводзец. Вмесьце со Сталіным вайну выіграў. Сьмею замеціць, уражэнец зьдзешніх мест!

Вось і прыехалі.

На зэдліку купка пасажыраў чакае гарадзкую аўтарэйсаўку. Падсаджваюся да стомленай бабулькі. Пытаюся, куды яна ў такі дзень зь вёдрамі, рыдлёўкамі.

– Капаць грады, бульбу трэба пасадзіць, а ў мяне шнур каля Агароднікаў, туды і кірую.

– А колькі ж вам гадочкаў?

– 89 гадочкаў, мілы чалавек, – адказвае.

– А сыны, дзеці, унукі?.. Дапамаглі б.

– Усе сыночкі палеглі... Адзін застаўся. Каласок кволенькі, яго і берагу...

– А вам дзяржава дапамагае?

– Дапамагае? – перапытвае яна. – Толькі і ведае, што грошы браць. За тое заплаці. За гэтае заплаці. Я і за сонейка, што сьвеціць, плачу... А сьлязінкі мае, калі сабраць, дык усе вокны таго будынка памыць можна, – яна паказвае на райвыканкам... Паехалі на мой шнурок, пакапай грады, я табе столькі раскажу...

Я іду па вуліцы Майскі Пасад, Майскі праезд, Майскі правулак, завулак Майскі. А ўражаньне такое, што іду па могільніку, дзе пахаваная перамога. І хаваюць яе па кропельцы, па жменьцы...


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Працяг са старонкі 5.

# Грамадзянская мабілізацыя

## АСНОЎНЫЯ КІРУНКІ ОК’98

*ОК’98* (якая ўдалая назва!) ажыцьцяўлялася ва ўсіх рэгіёнах краіны і была арыентаваная на розныя ґрупы насельніцтва: і на моладзь, і на людзей з вышэйшай адукацыяй, і на пэнсіянэраў і г.д.

***Інфармаваньне выбарцаў*** каардынавала арганізацыя *Gemma-93*, якая адшукала 300 валанцёраў для грандыёзнага “Маршу за Славаччыну”. Яны праехалі 3000 км па ўсёй краіне, наведалі 850 гарадоў і вёсак, распаўсюдзілі больш за 500 000 брашураў з інфармацыяй пра выбары. У часе сустрэчаў яны пераконвалі, што галасаваць канечне трэба, распавядалі пра тое, як галасаваць, ды пра тое, што жыцьцё можна і трэба палепшыць.

Арганізацыя *“Nadacia pre obciansku spolecnost”* арганізавала сэрыю з 13 рок-канцэртаў пад агульным лёзунгам *“Rock the Vote”* па ўсёй Славаччыне. Папулярныя музыкі заклікалі на іх моладзь узяць удзел у выбарах, каб забясьпечыць сабе будучыню. Прафэсійныя акторы, сьпевакі, спартоўцы запісвалі тэлекліпы пад агульным дэвізам “Галасую значыць існую”. Няўрадавыя арганізацыі распаўсюдзілі 570 000 улётак, 197 000 плякатаў, 253 000 паштовак, 375 000 наклеек.

Прадстаўнікі Славацкай асамблеі грамадзянаў арганізавалі маніторынг пяці галоўных газэтаў, дзьвюх тэле- і дзьвюх радыёстанцыяў, каб вызначыць, ці насамрэч кандыдаты маюць роўныя шанцы на доступ да мэдыяў. ***Кантроль за працэдурай галасаваньня і падлікам галасоў*** ажыцьцяўляўся ў межах праекту *Obcianske OKO’98* (Грамадзянскае вока). *OKO* падрыхтавала да выбараў 1746 назіральнікаў і 250 непартыйных сяброў выбарчых камісіяў.

Эфэктыўнасьць *ОК’98* ацэньвалася шляхам апытаньняў грамадзкай думкі падчас яе рэалізацыі. 6 агульнанацыянальных апытаньняў дапамагалі ўчасна вызначыць тыя з ініцыятываў, якія сустракаліся грамадзтвам без энтузіязму.

Ініцыятары *ОК’98* каардынавалі дзейнасьць з партыямі і блёкамі, што ўдзельнічалі ў выбарах у рамках Дэмакратычнага круглага стала, нефармальнай структуры, створанай за тры месяцы да выбараў чатырма дэмакратычнымі партыямі.

Кампанія *ОК’98* зламала стэрэатыпнае ўяўленьне, што няўрадавыя арганізацыі канечне павінны стаяць убаку ад палітыкі.

## ЦІ МАГЧЫМЫ БЕЛАРУСКІ ОК’2001?

Нягледзячы на істотныя адрозьненьні між Беларусяй і Славаччынай, дзе дыктатура была больш мяккая, сытуацыя ў Беларусі-2001 і Славаччыне-1998 усё ж шмат у чым падобная.

Рэжымы Лукашэнкі і Мэч’яра ўжывалі антызаходнюю рыторыку, рабілі стаўку на ізаляцыю ад агульнаэўрапейскіх працэсаў, паварот у мінулае і цесныя стасункі з Расеяй.

Гэты курс тлумачыцца сацыяльнай базай абодвух рэжымаў, якую складаюць найменш адукаваныя групы насельніцтва, жыхары вёсак і невялікіх гарадоў, старыя людзі — усе тыя, хто залежыць ад дзяржаўнай апекі і баіцца за сваё становішча ў часе рынкава-дэмакратычных рэформаў.

Сацыялягічныя апытаньні, якія праводзіліся ў нашых краінах, сьведчаць і аб супадзеньні сацыяльнага партрэту той часткі грамадзтва, якая аб’ектыўна супрацьстаіць дыктатуры і зацікаўленая ў пераўтварэньнях: маладыя або сярэдняга веку людзі, жыхары сталіцы і буйных гарадоў, з вышэйшай альбо сярэдняй спэцыяльнай адукацыяй, студэнты і кваліфікаваныя рабочыя.

Такім чынам, карысьць ад прымяненьня славацкага досьведу падчас беларускіх выбараў можа быць вялікая.

# Пабеда і Няміга



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Большасьць тых, хто перамог у вайне, даўно ляжаць у сырой зямлі. Амаль не засталося ўжо і тых, чыё жыцьцё вайна разбурыла, — палонных, вывезеных, арыштаваных, перамешчаных, эвакуяваных. Гляджу па сваёй сям'і: пайшлі на той сьвет і мае дзяды, і старэйшыя дзядзькі. Жывая толькі адна баба. У яе тры найстрашнейшыя ваенныя ўспаміны.

У 1942 годзе дзед пабачыў, што дзеці граюцца іржавай вінтоўкай, наганіў іх, а вінтоўку зашпурнуў у рэчку, у бухту. Аднавясковец данёс у камэндатуру (жыў з гэтага чалавек). Прыехалі немцы, сказалі: калі ня знойдзеш тае вінтоўкі за 48 гадзінаў і не здасі, расстрэл табе і тваёй сям'і. Як яе знойдзеш у ва-дзе? Дзед сабраў суседзяў, узялі човен, бусакі. Баба памылася і адзелася на сьмерць, памыла і апранула дзеці — маю маці й дзядзьку. Бабе тады было 26, дзецям — два і чатыры гадкі. Сядзелі, маліліся, малая таксама ўжо малітвы ведала. Цудам знайшлі вінтоўку. Дзед здаў, немцы толькі пасьмяяліся, па плячы паляпалі, — ламачча.

У 1943 годзе немцы пагналі мужыкоў у блізкі лес лавіць партызанаў. Мужыкі сякеры пабралі, пайшлі ланцугом, на аднаго паліцэйскага — дзесяць мужыкоў. Знайшлі прагаліну, дзе яшчэ вогнішча курэла. Партызаны ж маглі пастраляць іх, як казуляў, але палічылі за лепшае схавацца. Дзед вярнуўся.

У 1944 годзе саветы мабілізавалі дзеда ў войска, павезьлі на шкаленьне ў Аранчыцы. Баба зарубала пеўніка, паехала пабачыцца перад адпраўкай на фронт. Мо ў апошні раз пабачу, думала. Туды даехала, спаткаліся, разьвіталіся, прыйшла ноч. Куды падзецца? Пабачыла сьвятло ў нейкай хатцы, пастукала. Яе пусьцілі і адразу замкнулі дзьверы за ёй. У хатцы жылі палякі. Сабралася хеўра, гоняць самагонку за печчу і — сьвежую — п'юць за сталом. П'яныя, як швэды. Крычаць, клянуць. Бабця думала, што заб'юць яе там: тады, кажа, якраз польскія рускіх білі. Аднак яе выпусьцілі. Паехала начнымі цягнікамі, перакладнымі, сярод салдатні ў цемры. Ня згвалцілі толькі таму, што не пасьпелі. Выскоквала зь цягніка як толькі паравоз спыняўся, чакала наступнага.

Што ўражвае найбольш: вясковага даносчыка ніхто не крануў, ён дажыў да брэжнеўскіх часоў.

«Пабеду» ў вёсках і мястэчках даўно перастаў быць сьвятам. 9 траўня — дзень працы, пасадкі бульбы, пераносу флянцаў у парнікі. А ў Менску штогод — усё большы маштаб гулянняў. Я жыву каля плошчы Перамогі, дык мая жонка 9 траўня пасьля абеду баіцца выйсьці на вуліцу і сына не пускае. П'юць, скачуць, б'юцца. Увечары, у часе салюту ў мэтро, на мастах церазь Сьвіслач, ля Траецкага — тлум, гвалт, ціскаліна, дзявочы піск, маць-перамаць. (У Берасьцейскай крэпасьці робіцца тое самае. Там патэнцыйная Няміга — уваходная арка-зорка.) Усе пагалоўна п'яныя.

Няміга не была выпадковая. Яе падрыхтавалі гэтыя оргіі на 9 траўня.

**Барыс Тумар**

# "Міцубісі" і салют

**9 траўня ў Берасьці нецьвярозая жанчына на аўтамабілі «міцубісі» заехала проста ў драўляны дом па вуліцы Зубачова, 2, ля крэпасьці.** Аўтамабіль прабіў сьцяну і спыніўся побач з ложкам, у якім спала 18-гадовая дзяўчына. На шчасьце, ахвяраў не было. У выніку аварыі пашкоджаныя таксама сьветлафор і дарожны знак «Пешаходны пераход».

Увогуле, Дзень перамогі ў Берасьці прайшоў напружана. Увечары цэнтральны ўваход крэпасьці быў зачынены, міліцэйскі кардон не пускаў тых, хто прыйшоў на сьвяточны салют, і не выпускаў тых, хто хацеў выйсьці — бо пазалетась у арцы людзі падушыліся, і былі нават пацярпелыя. Таму, хоць крэпасьць была дрэнна асьветленая, людзі лезьлі цераз валы, скарачаючы шлях ад цэнтральнага ўваходу да Паўночных варотаў, падалі й атрымлівалі дробныя траўмы.

**Паводле БелаПАН**

## БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ

# Пеўні замест будзільнікаў

І праз 100 гадоў у Беларусі разьвіцьцё ўсіх сфэраў жыцьцядзейнасьці будзе стрымліваць паталягічны страх перад будучыняй і той небясьпекай, якую яна, нібыта, у сабе хавае.

Тэхнічны прагрэс будзе вельмі марудна заваёўваць беларускія абшары. І ў XXII ст. бабулька будзе пытацца ў свайго дасьведчанага ўнука, дзе сядзіць той таемны *Internet*.

Затое праз 100 гадоў большасьць беларусаў нарэшце ацэняць перавагі сельскай мясцовасьці і, пакінуўшы пыл і тлум мэгаполісаў, рушаць у вёску. Гарады ж, перасягнуўшы пік свайго росквіту, паступова пачнуць пусьцець. Зрэшты, і патрэба ў іх зьнікне, разам з дэканцэнтрацыяй прамысловых прадпрыемстваў. Лясы стануцца сапраўдным нацыянальным багацьцем, а зубр — самай звычайнай жывёлінай. Але ні ў каго нават думкі ня ўзьнікне паляваць на яго. Паляваньне будзе кваліфікавацца як забойства.

Дый забіваць жывёлін, нават усенароднаголюбімых сёньня парсюкоў, нашчадкам ня будзе патрэбы. Мяса зьнікне з рацыёну чалавека. Клопат аб экалёгіі станецца галоўным напрамкам дзяржаўнай палітыкі. Людзі ж будуць больш апантаныя экалёгіяй душы. Таму й распаўсюдзіцца гэтак вэгетарыянства.

Разам са спыненьнем забойства жывёлаў будзе адмененае сьмяротнае пакараньне. Штуршком для аднаўленьня грамадзтва зробіцца новая сыстэма адукацыі, скіраваная на разьвіцьцё творчага патэнцыялу кожнай асобы. Прыярытэт у школках будзе аддавацца мастацтву, у прыватнасьці, музыцы.

Гэта сфармуе чалавека новай эпохі, свабоднага, самастойнага і ўсебакова адукаванага. Вышэйшая адукацыя стане прывілеем для людзей менавіта такога кшталту. Іх стане менш, але карысьць, якую яны будуць прыносіць грамадзтву, будзе значна большай. Менавіта гэтая эліта стане падмуркам дэмакратычнага грамадзтва, што сфармуецца праз 100 гадоў. Тым больш што давядзецца шукаць шляхі выхаваньня нацыянальнай сьвядомасьці. Цэнтрам адраджэньня станецца новая сталіца Беларусі — Полацак. Там будзе кіпець культурнае жыцьцё, там будзе жыць творчая багема. Дэмакратычнае грамадзтва складзецца на аснове рынкавай эканомікі. Такой, якую можна пабудаваць, зыходзячы з нашага клімату, гістарычных перадумоваў і этнічных асаблівасьцяў. Грошы амаль зьнікнуць. На зьмену ім прыйдзе безнаяўны разьлік. І толькі дзе-нідзе будуць хадзіць сымбалічныя купюры з выявамі зайцоў, ваўкоў, вавёрак, зуброў — як даніна гістарычнай даўніне.

А яшчэ беларусы зьменяць будзільнікі на пеўняў, якія сваім сьпевам будуць штораніцы спавяшчаць, што над Беларусяй заняўся новы дзень, але ўставаць будуць, калі хто захоча.

**Людміла Гулюк**

## Новы праект "Нашае Нівы"



2101 год. Якой будзе Беларусь праз 100 гадоў? Якой будзе дзяржава і які дзяржаўны лад? Якімі будуць гарады? Які горад будзе сталіцай Беларусі? Якімі межы краіны? Што беларусы будуць есьці? Якімі будуць беларускія грошы? Якім транспарт? Якімі сродкі масавай інфармацыі? Якая літаратура будзе чытацца? Ці застануцца тэатры? Якія імёны будуць самымі папулярнымі? Якімі стануць лясы і рэкі? Ці можна будзе купацца ў забруджаных сёньня азёрах? Якія зьвяры зьнікнуць, якія новыя расьліны завядуцца? Што будзе з чарнобыльскай зонай? У якіх цэрквах будуць маліцца людзі? Што яны ведацьмуць пра 2001 год? Што будзе з намі?

**Пачынаючы з 25 сакавіка штотыдня — мары і фантазіі пра будучыню Вечнай Беларусі, эсэ, прагнозы і футуралягічныя артыкулы ў новай рубрыцы "НН" — "Беларусь праз 100 гадоў". З гэтага выйдзе цэлая кніга! Чакаем Вашых допісаў. Будзем загадваць.**

**Досьвед карысны. Застаецца толькі адно неадказанае пытаньне: як паўтарыць яго ў краіне, дзе амаль усё забаронена, дзе няма прыватнага тэлебачаньня і нават рок-канцэртаў не дазваляюць?**



Беларускаму "трэцяму сэктару" таксама пасуе ***прынцып непартыйнай палітычнай дзейнасьці:*** няўрадавыя арганізацыі ня толькі не павінны выхоўваць сваіх кандыдатаў, але й ня мусяць браць непасрэдны ўдзел у агітацыі за тых ці іншых кандыдатаў. Гэта — задача палітычных партыяў. Задачай НА зьяўляецца дэмакратызацыя грамадзкай сьвядомасьці, палітычная мабілізацыя грамадзянаў.

Іншымі словамі, няўрадавыя арганізацыі і палітычныя партыі маюць розныя, хаця і ўзаемазьвязаныя сфэры дзейнасьці. Посьпех магчымы толькі пры ўмове ўзаемадзеяньня палітычнай і грамадзянскай супольнасьці, а не падмены імі адна аднай, калі партыі займаюцца сэмінарамі і трэнінгамі, а няўрадавыя арганізацыі ствараюць кааліцыі для падтрымкі палітыкаў. Такая блытаніна можа прывесьці да паразы дэмакратычнага руху, бо недзяржаўныя арганізацыі аказваюцца ў гэткіх умовах няздольныя агучыць інтарэсы розных катэгорыяў грамадзянаў, а палітычныя партыі страчваюць здольнасьць аформіць гэтыя інтарэсы ў выглядзе палітычных праграмаў.

Прынцып непартыйнасьці ў палітычнай дзейнасьці беларускіх НА азначае, што ў часе будучай прэзыдэнцкай кампаніі "трэці сэктар" мусіць спрацаваць такім чынам, каб давесьці мільёнам людзей, што выбары могуць зьмяніць многае ў краіне, забясьпечыць максымальны ўдзел у галасаваньні тых групаў выбарцаў, якія, паводле зьвестак апытаньняў, абавязкова прагаласуюць за больш дэмакратычнага і незалежнага кандыдата.

У Беларусі сёньня ёсьць і аб'ектыўныя, і суб'ектыўныя перадумовы для дасягненьня посьпеху выбарчай кампаніі.

# Наша Ніва 90 гадоў таму

**Рады для гаспадароў**

...Кусты, якія б яны ні былі, калі церабіць толькі зьверху, то гэтым іх не зьвядзеш, а некаторыя праз гэта яшчэ больш набіраюць сілы ў карэньнях і ўскорасьці яшчэ буйней разрастаюцца. У кожным кусьце ёсць глаўны сярэдні корань; вось да яго і трэба канечне дабрацца і выкарчаваць. Тады драбнейшыя лягчэй ужо выдзерці дачыста і такім парадкам, хоць марудней — менш зробіш, але пазбудзешся гэтага воўка. Мейсца, дзе быў куст, трэба зараўноўваць, і калі гэта было на сенажаці, а не на араным полі (бо і тут у нас іх хватае!), засеяць, калі ёсьць, аўсом і канюшынай, а не — то патрухай ад добрага сена.

**Горадня.** 5 мая мінуў год ад сьмерці пісьменьніцы Элізы Ажэшкі. Грамадзянства добра яе помніць і помніцьмець, бо хаця яна і адышла ад нас целам, але дух яе жыве і жыцьме. Вось, у дзень гадавіны на імшу па Ажэшкавай сабралася багата людзей: кожны, хто толькі мог, сьпяшаўся выказаць сваю пашану памяці пісьменьніцы, што была сьвятлом у нашым шэрым жыцьці. Пасьля набажэнства цэлая грамада пайшла на могілкі зь вянкамі на памятнік Ажэшкавай.

Вечарком п.Катарбінская прачытала пекны рэфэрат, напісаны яе мужам аб памерлай пісьменьніцы. Разьбіраючы думкі Ажэшкавай, раскіданыя па розных творах, рэфэрэнт адзначыў дзьве рэчы. Першая — гэта асаблівая прывязанасьць да роднага краю; кожная прагалінка лясная, кожны лісточак з свойскага дубка ці хвойкі былі ёй мілы. Другая рэч, што Ажэшкава вельмі добра ўмела чытаць у душах бедакоў тутэйшых. Вось чаму яна была блізкая нам...

**12 траўня 1911 г.**

# Пасаджэньне на кол – II

## Гістарычныя прататыпы заўтрашняй апазыцыі

**У мінулым нумары мы гаварылі пра пасаджэньне на кол — адмысловую сьмяротную кару і гістарычны вобраз, нядаўна актуалізаваны кіраўніком РБ. Ён заявіў пра «іх», якія яго пасадзяць на кол. Мы высьветлілі, што ў беларускай гісторыі на кол саджалі злачынцаў толькі адной катэгорыі, а менавіта — казакаў. У часе набегаў на Беларусь казакі вызначаліся асаблівай нялюдзкасьцю ў дачыненьні да мясцовага народу — старых, жанчын, немаўлят. Ня дзіва, што іх саміх — казакаў — лічылі недалюдзьмі. Безмаетныя і бесьсямейныя, яны ня бралі палону, бо ня мелі права і патрэбы ў рабах, і не захоплівалі, не акупавалі гарады, бо таксама ня мелі права і намеру тут гаспадарыць, а таму толькі нішчылі ўсё, пакідаючы пасьля сябе адно выпаленую зямлю. Недалюдкам і пакараньне было вызначана зусім нялюдзкае, невысакароднае — пасаджэньне на кол. Сёньня мы працягнем гэтую тэму, але гаворка пойдзе ўжо не пра тых, каго саджалі на калы і з кім вольна ці міжвольна атаясаміў сябе першы прэзыдэнт, а пра тых, ХТО саджаў, — пра тых загадкавых «іх», якія спынялі няпрошаныя набегі, каралі злачынцаў і вярталі край да цывілізацыі і парадку, як бы цяпер сказалі — у канстытуцыйнае поле...**



Пару дзён таму мне давялося адказваць на пытаньне пра беларускі нацыяналізм — што гэта такое сёньня? За мінулыя 10 гадоў тэрмін настолькі расьцярушыўся, што сабраць яго ў нейкую адназначнасьць немагчыма. Увогуле з тэрмінамі такое адбываецца нярэдка. Я згадваю Жан-Поля Сартра, пачынальніка экзыстэнцыялізму, які ўрэшце адмовіўся прызнаваць сябе гэткім, бо экзыстэнцыялізму і экзыстэнцыялістаў стала процьма, і ўжо немагчыма было ўцямна растлумачыць, што ж гэта такое. Нешта падобнае адбылося і зь беларускім нацыяналізмам. Ён за гэты час нікуды не прапаў, ён наадварот пашырыўся, але каб выказаць ягоную сутнасьць, патрэбныя ўжо іншыя словы. Я спыніўся на слове арыстакратызм.

Менавіта арыстакраты вякамі праводзілі ў Беларусі цывілізаваны парадак, будавалі гарады, адкрывалі ўнівэрсытэты. Менавіта арыстакраты спынялі тыя казацкія набегі і каралі недалюдкаў на калах. І калі мы працягнем прапанаваную першым прэзыдэнтам паралель, дык прыйдзем да высновы, што менавіта арыстакратызму бракуе сёньня беларускаму грамадзтву.

З чаго складаецца беларускі арыстакратызм? Гаворка ідзе не пра пашпартную радавітасьць або нічым не падмацаваную фанабэрыю цяперашняга жабрака — нашчадка княскага роду. Гаворка пра ідэалёгію — тагачасную, шляхецкую — і пра тое, якім чынам яна магла б трансфармавацца ў рэаліях нашага цяперашняга жыцьця. Сёньняшняе грамадзтва — гэта ўсяго толькі працяг колішняга. Цягам гісторыі яно растраціла свае ўнутраныя сілы, сваю волю да жыцьця, сваю самабытнасьць, але можа і вярнуць іх, калі будзе падпарадкоўвацца сваёй жа ўнутранай лёгіцы разьвіцьця. Вось некалькі базавых прынцыпаў.

***1. Сарматызм як ідэалёгія адметнасьці.*** Сапраўды, для старавечнага беларуса было б недарэчнасьцю пагаліць вусы, надзець панталёны і парык, як гэта практыкавалася на Захадзе. У нас для стварэньня адметнасьці ўжываліся самыя неверагодныя фантазіі і кампіляцыі з каўказкіх, пэрсыдзкіх, турэцкіх матываў. Адныя слуцкія паясы чаго вартыя! Для тагачаснае Эўропы — чыстая экзотыка. Але мы не такія, як яны, — гэта галоўнае. Вось ён — сярэднявечны беларускі нацыяналізм. Сёньня ён зусім стыхійна і прыродна выяўляецца ў схільнасьці да мілітарнае вопраткі або ў пошуку якіх-небудзь кельцкіх каранёў. Важна, што мы не такія. Мы не славяне. Вунь ажно адкуль ідзе гэтае адмаўленьне славяншчыны. Цяпер мы балты. Мы працівімся арыентацыям Расея—Захад. Нам бліжэй Балтыя—Каўказ.

***2. Мілітарнае выхаваньне.*** Яно таксама стыхійна прабіваецца зь сёньняшніх беларусаў. Яго няма і як бы мэты яму няма, але прырода ці голас крыві патрабуе. Неўсьвядомленая гістарычная лёгіка. Так ствараюцца суполкі «Край», «Белы легіён» і падобныя. Не заўсёды толкам ведаюць нават — навошта. Але сэрца падказвае. Калі ж глядзець на сярэднявечныя вытокі гэтых падказак, дык убачым, што ўменьне ваяваць патрэбнае на тое, каб бараніць сваё майно, найперш

***3. сваю ўласную зямлю.***

Ці ня ў гэтым сакрэт доўгага існаваньня Вялікага Княства без усялякіх дыктатураў і валюнтарызмаў. На працягу 500 гадоў высакародныя земляўласьнікі былі апірышчам краіны. Іхная згода ў абароне правоў на зямлю была вышэй за ўсялякія іншыя раздоры і адрозьненьні.



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Мне малюецца ідылія сёньняшняя — ідылія адраджэньня арыстактарызму. Скажам, тыя краёўцы. Кожны набывае сабе закінуты хутар і засноўвае маёнтак. Важная дэталь — у поўнай згодзе з прыродным беларускім індывідуалізмам. Пры цяперашніх коштах і матарызацыі ўсё гэта ўявіць няцяжка. Такая сабе база новае шляхецкае салідарнасьці, якая мацуецца на зьездах-сойміках. Хто дужэйшы і разумнейшы, той большага дасягае посьпеху. Каб абараніць свае соткі, дастаткова і дубальтоўкі. А каб адстаяць правы на тысячу гектараў з высокатэхналягічнай вытворчасьцю на іх, спатрэбіцца сваё войска і сваё лобі ў парлямэнце. Толькі ж пачынаецца ўсё з малога. Ужо дзяцей сваіх яны адашлюць у эўрапейскія ўнівэрсытэты. А самі стануць заснавальнікамі новых беларускіх дынастыяў.

Усё сказанае і ўбачанае ў сёньняшніх рэаліях выглядае больш на фантазію. Ня так проста прасякнуцца ідэалёгіяй арыстакратызму, калі навокал пануе казаччына зь яе амаралізмам. Зь іншага боку, гісторыя ясна паказвае нам нас саміх і тое, чаго нам сёньня бракуе. Ёсьць праекцыя казацкага набегу, але няма праекцыі арыстакратыі. У нас падсьведама шукаюць гэткую сілу, а яе відавочна трэба ствараць. І наўрад ці выседзіш яе ў менскіх кватэрах, на інтэлігенцкіх кухнях. Нашыя продкі пакінулі нам ідэалёгію, якая высьпявала вякамі. І рэч ня столькі ў нашых генэалягічных табліцах, колькі ў адпаведнасьці сваёй чалавечай прыродзе.

Зрэшты, ня толькі фантазійны, але і зусім прагматычны погляд схіляе да тых самых развагаў. Вы кажаце пра слабасьць беларускае апазыцыі. А якая ў яе база? Абаронай якіх матэрыяльных каштоўнасьцяў прадыктаваныя яе палітычныя інтарэсы? Дэмакратыя і незалежнасьць — хоць і высакародныя, але толькі словы. Зь іх дому не збудуеш, імі не пад'ясі, за іх ня купіш, і дзеці ад іх не нараджаюцца. Патрэбная матэрыяльная база. Колішніх беларускіх арыстакратаў яднала земляўласьніцкая салідарнасьць. Сёньняшнія апазыцыянэры цалкам залежаць ад рэсурсаў замежных грантадаўцаў. Ня дзіва, што яны зь лёгкасьцю пакідаюць патрыятычныя прынцыпы, бо заяўкі, гранты і справаздачы нацыянальнасьці ня маюць. А ў выніку змагары зь Міхненкам-Залатарэнкам сутнасна нічым ад яго не адрозьніваюцца і таксама жывуць адным днём — да выбараў, пасьля якіх — ці пан ці прапаў. У адрозьненьне ад іх Радзівіл сам ствараў сваю сытуацыю і — супольна з Сапегам, Валовічам, Агінскім — сытуацыю ў краіне. Таму Радзівіл меў волю і розум спыніць казацкую навалу і пасадзіць Міхненку на кол.

Словам, калі давяршаць гістарычную аналёгію — менавіта салідарнасьць уласьнікаў ёсьць беларускім нацыяналізмам, той сілай, што здольная навесьці ў краіне ўласьцівы ёй парадак. Гучыць, вядома, як пажаданьне, бо тых арыстакратаў-уласьнікаў як сілы пакуль няма. Аднак зь нечага ж некалі мусіць тое пачацца. Інакш усё жыцьцё ператвараецца ў марудны прастой — ад выбараў да выбараў, ад гранту да гранту, ад Міхненкі да Залатарэнкі...

Неяк у вёсцы я крыху паэкспэрымэнтаваў. Аглядаючы прыгожы і добра дагледжаны грушавы сад, сказаў гаспадару:

— Ну ты арыстакрат! Адразу відаць — беларус.

З погляду ў адказ я зразумеў, што патрапіў у кропку, выказаў найвышэйшую пахвалу.

**Сяргей Паўлоўскі**

# Bene natus et posessionatus

**Вобраз беларускага арыстакрата розьніцца ад вобразаў заходнеэўрапейскага, а пагатоў расейскага арыстакратаў. Шляхта ў Вялікім Княстве, паводле розных падлікаў, складала пад 15 адсоткаў. Гэта быў найвышэйшы паказчык ва ўсёй Эўропе. Адпаведна, у той ці іншай ступені, большасьць сёньняшніх беларусаў, пераплаўленых у гуце ХХ ст., мае ў сабе пырскі шляхецкае крыві.**

За часамі Вялікага Княства нашае шляхецтва набрыняла комплексам спэцыфічных ідэяў, якія прынята называць «сарматызмам». Яны ўважалі сябе за рыцараў Хрыста, што вартуюць веру на яе апошніх межах, за якімі пачынаюцца неаглядныя й варожыя эўразійскія абшары. Натуральна, што абаронцам Веры мог быць адно *homo militans*, то бок чалавек зброены.

За часоў Рэчы Паспалітае толькі шляхта мела права насіць зброю. Толькі яна мусіла бараніць сваю дзяржаву, праліваючы сваю кроў. З таго вынікала адмысловая сыстэма выхаваньня хлопчыкоў. Нават брак фізычнае моцы павінен быў кампэнсавацца ўменьнем страляць ды фэхтаваць. Пацы, Сапегі, Радзівілы, Храптовічы, Агінскія з трох гадоў сядалі ў сядло.

Колькасьць беларускай шляхты скарачалася ў бясконцых войнах. Напрыклад, у XVII ст. было толькі 32 мірныя гады. Коштам свае рыцарскае крыві арыстакратыя Рэчы Паспалітае аплочвала правы на вольнасьць. Калі ў Францыі кароль Людовік XIV мог сказаць: «Дзяржава – гэта я!», дык у нас гэта з поўным правам мог сказаць кожны шляхціц. Абраныя вольнай шляхтай каралі былі вартыя свайго рыцарства. Сьцяпан Батура біўся сам у сечах і на зуброў паляваў сам. Пра Яна Сабескага, які разьбіў туркаў пад Венаю, хадзілі легенды. Ён кіраваў гусарамі, летучы наперадзе іх у той вялікай сечы, што перадвызначыла лёс Эўропы. Няўжо ж тым, хто абіраў сабе гэткіх каралёў, можна было хавацца за іхнымі сьпінамі?

Хлапчукоў у 7—8 гадоў бацькі адрывалі ад мацярок і навучалі гаспадараньню й паляваньню. Хоць, што праўда, у бацькоў гэта не заўжды атрымлівалася, бо чарговы покліч вёў іх у паход, і ролю мужоў у выхаваньні хлапчукоў пераймалі жанчыны. Гэтак сталася нават з будучым каралём, Янам Сабескім. Ягоную маці шляхта ўважала гэтаксама за рыцара (ці то рыцарку), як і яго самога.

Яшчэ адным складнікам ідэалёгіі беларускае арыстакратыі была зямля. *Bene natus et possessionatus* – высакародны земляўласьнік – вось ідэал рыцара! Колькі б тае зямлі ні было, яна мусіла быць. Нават каб і самому давялося «*высакародна араць сваё поле*». Пачуцьцё годнасьці было проста неаддзельным ад зямлі. Астах Валовіч ці Леў Сапега выдатна разьбіраліся ў аграрных пытаньнях, кіравалі складанымі зямельнымі рэформамі. Тыя, хто праліваў кроў за сваю зямлю, умелі яе шанаваць і гаспадарыць на ёй. Родавае гняздо, *маярат*, быў выключнай каштоўнасьцю. За яго трымаліся да апошняга, яго абагаўлялі, рамантызавалі. Зямля прадкаў у літаральным сэнсе. Можаце сабе ўявіць, якія пачуцьці казыталі душы ўладальнікаў сядзібы ў Мосары, што на Глыбоччыне, наведанае Сьцяпанам Батурам у часе ягонага паходу на Пскоў, пра што яшчэ ў міжваенным часе сьведчыла каменная шыльда на фасадзе...

Не лічылася заганаю і ўласнымі рукамі корпацца ў зямлі. Наадварот! Бацькі Фэрдынанда Рушчыца, графскага паходжаньня, разам з сынам выбіралі бульбу поруч зь сялянамі. І зусім ня зь беднасьці, а з... *арыстакратызму*.

Панятак *безьзямельнае шляхты* зьявіўся толькі ў XVIII ст., у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай і расейскае акупацыі. Баючыся пазбыцца свайго шляхецтва, гэтыя бедакі змушалі сваіх дзяцей вучыць на памяць усю генэалёгію. Ад таго моманту мара пра зямлю стала яшчэ адным неад'емным складнікам шляхецкага мэнталітэту...

Наступнай адметнасьцю нашае арыстакратыі была яе адукаванасьць. Кожны шляхціц, нават шарачок, быў пісьменны. Неад'емнай часткаю адукацыі з XVI ст. сталася лаціна. «*Я шляхціц, я гавару на лаціне*», — лямантаваў шляхціц у лапцях, калі яго раптам блыталі з кім іншым. Магнатэрыя рупілася пра выхаваньне нашчадкаў. Радзівілавых дзяцей навучаў Сымон Будны, для іх ён пераклаў Катэхезу па-беларуску. А Мялеці Сматрыцкі выхоўваў дзяцей князя Саламярэцкага, між іншым, езьдзячы зь імі па нямецкіх унівэрсытэтах. Той самы Януш Радзівіл, які саджаў на кол казакаў, вучыўся дзецюком у найлепшых унівэрсытэтах Ангельшчыны, Нямеччыны, Нідэрляндаў ды Францыі.

Натуральна, чым вышэйшы быў род, чым большая была ягоная адукаванасьць, тым меней увагі надавалася рэлігійным звадкам. Бойкі на рэлігійнай глебе былі справаю цемрашалаў і шаленага сьвятарства. Арыстакратыя заўсёды знаходзіла супольную мову, не зважаючы на розьніцу веравызнаньняў. Напрыклад, Ганна Стацкевіч-Багданава, якая фундавала ў Менску царкву й брацтва Пятра й Паўла (што на Нямізе), у 1618 г. прызначыла апекунамі гэтага асяродку вядомых магнатаў... кальвіністаў: Януша Радзівіла, Марціна Валадковіча, Яна Агінскага, Юрыя Тышкевіча ды інш. Маўляў, пратэстанцкая арыстакратыя будзе аб'ектыўнаю й абароніць праваслаўных, зь якімі, як з «панамі-братамі», поплеч стаялі супраць супольных ворагаў.

Паміж мужчынамі-арыстакратамі існавала складаная сыстэма гіерархіі й адпаведнага этыкету. Перад кім здымаць шапку, каму ціснуць руку, а каму цалаваць, каму ківаць, а перад кім складаць да зямлі – гэта была мудрагелістая навука. Памылковае прывітаньне было абразаю.

Істотным складнікам беларускага арыстакратычнага мэнталітэту было падкрэсьлена паважлівае стаўленьне да кабетаў. Жанчыну (бабцю, маці, жонку) багомілі, як Панну Марыю. Менавіта жанчыны перахоўвалі старыя звычаі ды сямейныя паданьні. Ва ўмовах, калі большасьць мужчынаў непазьбежна гінула ў росквіце сілаў на войнах, на жанчыну лягаў увесь цяжар клопату за дом і за дзяцей. Каб у сьвет пайшло чарговае пакаленьне арыстакратаў, *homo militans*, высакародных земляўласьнікаў, якія будуць бараніць сваю дзяржаву й сваю зямлю.

**Сяргей Харэўскі**

# Асаблівасьці нацыянальнага алькагалізму

Алесь Чобат

Надыходзіць лета — час адпачынку і рэфлексіі. Трэба адзін раз за год падумаць і паразважаць. Пра вечнае, пра жыцьцё і сьмерць — як мы жыцьцё марнуем і зь якой хваробай паміраем. А паміраем мы ўсё часьцей і часьцей ад банальнага алькагалізму. І ў Менску разам з "Чарнобыльскім шляхам" час праводзіць "Гарэлачны шлях".

На алькагалізм — як на рак! — хварэюць *усе* без вынятку: бедныя і багатыя, разумныя і дурныя, гаспадарныя і абадранцы. Пачынаецца ён звычайна ў *сябе дома*, прыблізна ў веку... пяці гадоў.

У вёсцы гэта, як правіла, дакопкі бульбы, а ў сталіцы і другіх культурных цэнтрах нейкая ўрачыстая нагода: цётка Маня прыехала, суседзі ў госьці прыйшлі etc. І вось пяцігадовы Саша сядзіць за адным сталом з дарослымі, і яму наліваюць *чарку*. Няважна, сок там альбо ліманад — важная *чарка*. Бо не з гарэлкі алькагалізм пачынаецца, але з чаркі. І менавіта за супольным урачыстым сталом. сярод сваіх родных і блізкіх, якія ўсім хочуць толькі дабра...



IREX-PROMEDIA

*Мама разам з капейчынай дае інструкцыю: — Сынку, ты ж будзь як чалавек! Ты пі, толькі не напівайся... Пасьля такога благаславеньня лёс Сашы вырашаны.*

Далей — болей. Гадоў у дзесяць (ці ў восем!) адзначаецца "юбілей" Сашы (ці ягонага аднаклясьніка). І шаноўная мама налівае дзецям... па кропельцы лёгкага сухога віна. Ноччу Саша пачынае рыгаць, ікаць, плакаць, хрыпець, раскідвацца, захлынацца — адным словам, спаць неспакойна. Мама Сашы кляне той салат "аліўе" з пазаўчарашняй каўбасой, але ў галаву ёй не прыходзіць кропелька сухога віна. Заўважым, ізноў былі "адны свае", ізноў усе хацелі толькі дабра...

Між тым Саша расьце. Гадоў з дванаццаці-чатырнаццаці пачынаюцца розныя школьныя вечарыдыскатэкі. Там ужо пляшку па коле Саша з прыяцелямі пускае самастойна. Што праўда, не зусім. Бо капейчыну дае... тая ж мама. Пры гэтым разам з капейчынай дае вельмі характэрную для нашага нацыянальнага характару інструкцыю:

— Сынку, ты ж будзь як чалавек! *Ты пі, толькі не напівайся...*

Пасьля такога блаславеньня лёс Сашы вырашаны. Алькагалізм, хранічны алькагалізм, безнадзейны алькагалізм. Калі хочаце — *беларускі алькагалізм.*

Маме ў галаву ня прыйдзе сказаць: "Сынок, ты ня пі зусім! Няхай другія хоць захлынаюцца, няхай зь цябе сьмяюцца... Прыйдзе час, і ты зь іх пасьмяешся. А яны заплачуць...".

Сказаць сыну "ня пі!" беларуская мама здольная толькі ў адным з блюзаў Шалкевіча.

Сказаць сыну "ня пі зусім" беларуская мама *ня можа.* Тады (на яе думку) сына будуць дражніць, ня браць у кампанію, западозраць у ім хворага, слабака, гліста, хлюпіка etc. А гэта адаб'ецца ня толькі на сыне, але... на "аўтарытэце" *ўсяго* сямейства. У гэтым *смак* беларускага жыцьця: маеш быць "як чалавек", маеш быць "як усе", маеш *абавязак* піць, бо іначай трапляеш у "слабакі", "хлюпікі" і ўвогуле выродкі, *ня людзі.* Але ня маеш напівацца! Бо тады трапляеш... у тыя самыя "слабакі", "хлюпікі" і ўвогуле вырадкі. Такім чынам, беларуская калектыўная папойка — гэта своеасаблівы *натуральны* адбор "па Дарвіну". Праз выпіўку беларусы адсейваюць "слабакоў" ад "мужыкоў", "чужых" ад "сваіх" — мае быць *як у людзей*, мае быць "аднакава", мае быць "роўнасьць у чарцы". Нашы папіюхі і зьвязаная зь імі "беларуская гасьціннасьць" гэта... *дэтэктар на літражы.* Такі "дэтэктар" тым добры, што заўсёды кагосьці "выкрые": адзін чалавек лёгка пераносіць алькаголь, а другі — цяжка, адзін важыць 65 кг, а другі — 120 кг, адзін мае прыроджаныя захворваньні, а другі – не etc. Алькаголь як сродак калектыўнага выкрыцьця "слабакоў" і "хлюпікаў" добры тым, што ён дзейнічае хутка і безадмоўна. Гэта дазваляе вельмі лёгка людзей *падзяліць* на тых, хто сьпіўся і хто ня сьпіўся. Глыбока памылковае меркаваньне, што *калектыў* заклапочаны тым, каб у ім былі "адны свае". Наадварот! Калектыў заклапочаны тым, каб там не было "чужых"... Наймацнейшыя калектывы ў сьвеце — скажам, "спэцслужбы" — ільвіную долю сіл і сродкаў выдаюць не на барацьбу з ворагам, але на праверку і пераправерку сваіх супрацоўнікаў. З гэтага пункту гледжаньня сучасная беларуская нацыя нагадвае... нейкую 10-мільённую спэцслужбу...

Між тым, Саша скончыў школу, паступіў у вышэйшую вучэльню і трапіў у інтэрнат... А там — усе ад такіх самых мамаў, якія інструктавалі сыноў "пі, але не напівайся!". Таму далей усё працягваецца натуральна... Тым болей, што ролю матак-інструктарак з другога-трэцяга курсу бяруць на сябе *дзяўчаты.* Цяпер яны навучаюць "пі, але не напівайся!" Каму трэба, каб "яе хлопец" у лужыне ляжаў, альбо... зусім ня піў, быў "слабаком і хлюпікам"?!

*Беларуская калектыўная папойка — гэта натуральны адбор "па Дарвіну"*

Нарэшце, вышэйшая адукацыя сканчаецца дыплёмам, шлюбам з Маняй і разьмеркаваньнем. І пачынаюцца "шэрыя дні": праца, інтэрнат (цяпер ужо фабрычны), праца. Але шэрыя яны... толькі ў савецкіх размовах. Пры больш уважлівым разглядзе нават на інжынэрскія заробкі жыць можна — што праўда. бедна, але ж лёгка і весела. Давайце палічым "гадавую норму" нармалёвага і непітушчага Сашы.

Новы Год (новы і стары), Каляды і Вялікдзень (праваслаўныя і каталіцкія), 23 лютага, 8 сакавіка, Дзень Волі, 1 і 9 траўня, "акцябарскія празьнікі", дні нараджэньня (Сашы, Мані, татаў, мамаў, братоў і сёстраў з абодвух бакоў), авансы і заробкі, прэміі за год і за чатыры кварталы, розныя выпадковыя сьвяты ў розных сяброў і сяброўак, складчына на службе (прычыны гл. вышэй), тыя ж дакопкі бульбы і гасьцяваньні розных сваякоў і знаёмых... У аднаго дзівака, майго колішняга супрацоўніка з фабрычнага КБ, такіх абавязковых выпівак атрымалася за календарны год *сто дваццаць сем.* З разьліку паўлітра гарэлкі за раз выходзіць 63,5 л за год. *Шэсьць з пловай вёдраў.* Пяць літраў на месяц ці дзьве зь лішкам пляшкі на тыдзень... Любы нарколяг узнае такога "непітушчага" за алькаголіка. Гэта пры тым, што *па-за* вышэйназваным "непітушчы" сапраўды не выпівае "проста так" альбо "за кампанію" — толькі па справе: рамонт, блат, "падзяка" etc.

**Працяг у наступным нумары.**

# Жудасны кансэрватызм вёскі

**Беларусы як нацыя выйшлі зь вёскі. Карані кожнага гараджаніна ўжо ў другім-трэцім калене сягаюць туды. І пры гэтым гараджаніну ўсё цяжэй разумець вёску. Шмат якія вясковыя зьявы і погляды выклікаюць ягонае зьдзіўленьне.**

Па-першае, ня можа не зьдзіўляць жудасны кансэрватызм вёскі. Ня раз высакародныя памкненьні навучыць вяскоўцаў больш дасканала і прадукцыйна гаспадарыць на зямлі разьбіваліся аб фразу: "Як нашыя дзяды і бацькі рабілі, так і мы будзем рабіць". Навошта ж адмаўляць прагрэс?

Па-другое, адносіны паміж людзьмі там застаюцца на першабытным узроўні. Як аксіёма, прымаецца падначаленьне жанчыны мужу, а малодшых — старэйшым.

Многія людзі пэнсійнага веку перакананыя, што ведаюць усё на сьвеце. Нават калі распавядаць ім пра апошнія мэтады геннай інжынэрыі ці біятэхналёгіі, можна ў адказ пачуць: "Ды я гэта ведаю, я столькі гадоў пражыла!"

Што мне яшчэ не падабаецца тут, дык гэта нежаданьне актыўна ў нечым удзельнічаць ці ўводзіць нешта новае. Вясковыя прынцыпы "мая хата з краю", "абы не было вайны" і г.д. прыводзяць да таго, што прагрэс адчуваецца тут досыць слаба. Вяскоўцы недалёка адышлі ад XIX ст., асабліва ў сваім сьветапоглядзе, ды і ў матэрыяльнай культуры. З новага – асфальтаваныя дарогі (ня скрозь), калгасныя крамы, калгасная састарэлая тэхніка на палях, электрычнасьць ды рэдкія цагляныя дамы.

Адна з прычынаў беднасьці вяскоўцаў – малаадукаванасьць. Вышэйшую адукацыю маюць толькі старшыні калгасаў ды настаўнікі. Чалавек з больш-менш добрай адукацыяй імкнецца ў горад, дзе прасьцей рэалізаваць свае здольнасьці і веды. У вёсцы застаюцца людзі з пачатковай адукацыяй.

Узровень мысьленьня чалавека ў сучасным грамадзтве, ягоны кругагляд (у тым ліку палітычны) і сьветапогляд проста прапарцыйна залежаць ад адукаванасьці. Малаадукаваны чалавек разважае вузка лякальна, абстрактнае мысьленьне ў яго на досыць нізкім узроўні, і ён ня можа пралічыць свой крок наперад. Адсюль – страх перад усім новым, страх зрабіць нешта, што выходзіць за межы прынятых нормаў. Адзінае жаданьне ‑ захаваць усё як ёсьць, як бы дрэнна ні было, бо ўжо маеш досьвед прыстасаваньня да гэткай рэчаіснасьці.

Аднак менавіта гэткі кансэрватызм паспрыяў выжываньню беларусаў як народнасьці. Яго не зламалі ні палякі палянізацыяй, ні расейцы русыфікацыяй: беларусы як былі, так і засталіся "тутэйшымі". Дзякуючы кансэрватызму, у нашай культуры захаваліся паганскія традыцыі, фальклёр. Так што бабуля надвое варажыла.

Апрача кансэрватызму, варта вызначыць, што кола зносінаў у сельскай мясцовасьці часта абмяжоўваецца жыхарамі аднае вёскі. (Чаго шукаць у суседняй вёсцы, калі ў сваёй усё тое ж самае?) Гэта замінае пранікненьню туды новых ідэяў і зьяваў, якія даходзяць зь вялізным спазьненьнем і, пераламляючыся кансэрватыўнымі традыцыямі, пазбаўляюцца свайго першапачатковага сэнсу. Сродкі масавай інфармацыі прыйшлі ў вёску досыць позна і не набылі тут такога пашырэньня, як у горадзе. Акрамя таго, сёньня ўсе значныя СМІ, даступныя тутака, выказваюць афіцыйную пазыцыю. Незалежныя СМІ за такі кароткі час не змаглі значна паўплываць на сьвядомасьць вяскоўца.

Калгас – галоўная бяда вяскоўцаў, хоць самі яны гэтага не разумеюць. Выйсьці зь яго, забраўшы свой загон, нялёгка. Дый няма каму, бо за гады савецкай улады развучыліся працаваць людзі на сябе. Працуюць абы-як:аруць, абы ўзараць, сеюць, абы пасеяць. Крадуць усе, ад старшыні да апошняга вартаўніка, прычым не хаваюцца, бо ніхто не закладзе – кругавая парука. Вось і атрымліваецца, што ў калгасы ўкладаюцца вялізарныя сродкі, а аддача вельмі малая. І пакуль ня зьявіцца гаспадар на зямлі, бессэнсоўна спадзявацца на дабрабыт у вёсцы. Усе разумеюць, што пэнсіі і калгасныя заробкі – мізэрныя і будуць такімі, пакуль у краіне не пачнуцца зьмены, ліквідацыя калгасаў. Аднак калі размова перакідваецца на калгасы, вяскоўцы гарою ўстаюць за іх.



Вёска сьпіваецца. Адпачыць такім чынам пасьля працоўнага дня лічыцца калі не абавязкам, дык нормай. Гоняць самагонку. Калі задацца пытаньнем: "Чаму п'юць?" – дык мне адказ бачыцца ў адсутнасьці заняткаў, якія маглі б зацікавіць чалавека і дапамагчы яму з карысьцю для цела і душы бавіць свой вольны час. Маладых вяскоўцаў ужо немагчыма перавыхаваць, яны пайшлі па сьлядах сваіх бацькоў. Трэба хоць наступнае пакаленьне ўратаваць.

Яшчэ адна праблема беларускай вёскі – хуткае старэньне. Ёсьць цэлыя вёскі, дзе ўсе жыхары – пэнсійнага веку. Праз дзясятак-другі гадоў там не застанецца ніводнага чалавека. Часам ідзеш у такой вёсцы позьняй восеньню або ўзімку і здаецца, што яны ўжо мёртвыя – настолькі цяжка заўважыць тут прыкметы жыцьця.

Моладзь усімі сіламі імкнецца зьехаць у горад, не жадаючы працаваць за мізэрныя калгасныя заробкі. Хоць далёка ня ўсе парываюць зь вёскай зусім. Нехта прыяжджае адпачываць, а большасьць – працаваць, каб забясьпечыць сябе харчам на зіму. Гэтыя людзі так да канца і ня робяцца гараджанамі, але й вяскоўцамі перастаюць быць. Яны нясуць гарадзкую культуру ў вёску і вясковую псыхалёгію ў горад.

Для некаторых маладых гараджанаў вёска робіцца ўжо экзатычнай зьявай, за якой можна назіраць, але яе сэнс цяжка спасьцігнуць. Горад на гэтых людзей аказвае вырашальны ўплыў, і, хто ведае, можа мы станем калі-небудзь сапраўды гарадзкой нацыяй.

**Зьміцер Мацьвейчык, Менск.**

**Фота аўтара.**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# Толькі ў вайну вярнуўся мужык

*ЭСЭ*

Міхась Тычына

Нядаўна праведаў вёску – пацягнула да родных мясьцінаў, да могілак, дзе пахаваныя мае родныя і блізкія. І быў засмучаны, убачыўшы на месцы колішняй Анюцінай хаты разбураную печ, кучы сьмецьця, гнілыя дошкі. Гадоў дваццаць пасьля сьмерці бабулі Анюты у ейнай хаце ніхто ня жыў. З тутэйшых калгасьнікаў ахвотных купіць яе не знайшлося, а гарадзкія дачнікі мелі лепшы выбар, балазе ў вёсцы за апошнія гады спусьцела аж шэсьць хат. Урэшце калгас перадаў бярвеньне ад Анюцінай хаты адзінокай бабулі ў суседнюю вёску — на рамонт хлява.

Зашчымела ў маёй душы ад суздзіраньня гэтай спусьцелай сядзібы – зь ёю зьвязаныя ўспаміны далёкага маленства, згадкі пра сям'ю, што жыла тут.

Да калектывізацыі Аляксандар і Анюта Заброцкія былі звычайнымі сялянамі-серадняками – як і большасьць вяскоўцаў. Трымалі два кані, дзьве каровы, мелі восем гектараў ворнай зямлі, шэсьць – сенажаці, гумно. Залічыць іх у "кулакі" мог толькі вар'ят, тым болей што Заброцкія не адмаўляліся ўступаць у калгас. Але камбедчыкам і сельсавецкім актывістам муляла вочы новая прасторная хата Заброцкіх: адна палова, з трыма вокнамі ад вуліцы, лічылася сьятліцай, другая, праз сенцы, летнікам – там стаялі куфар, кубел, дзежкі для збожжа. Калгасная галота аж трэслася, гледзячы на такі "харом". І Заброцкія трапілі ў сьпіс на раскулачваньне, дзе было сем сем'яў – траціна ўсёй вёскі! Аляксандар Заброцкі параіўся з жонкай і, не чакаючы выправы на Поўнач, зьехаў у Асіповічы да сваяка. Сьпярша хаваўся ў яго, а калі хваля раскулачваньня аціхла, уладкаваўся на працу і нават зрэдку, сваяком, перадаваў жонцы сякія-такія грошы. Вывозіць яе з малымі дзецьмі (старэйшаму Янку ішоў пяты гадок, маленькай Нюры – другі) на высылку ўлады не наважыліся, але і ў калгас не прынялі, хоць Анюта прасілася. Яе выселілі з большай паловы хаты ў "летнік", а ў рэквізаванай сьвятліцы дазволілі часова пасяліцца маім бабулі й дзядулю з дарослым нежанатым сынам. (Пасьля таго як улады вывезьлі за Котлас сям'ю бабулінага роднага брата Андрэя Жаўрыда, нашыя вырашылі пераехаць сюды зь вёскі Хацінава). Пакуль дзядуля з сынам будавалі хату на спусьцелым братавым дварышчы, сям'я жыла ў Анюты. І мяне маці выпраўляла на лета да дзеда, бо, застаўшыся бяз мужа (бацьку пасадзілі на два гады за невыкананьне *цьвёрдазаданьня*) зь пяцьцю дзецьмі, займела мноства клопату. Я ў бабулі быў за сьвінога ды авечага пастушка. У Анюцінай хаце, якую калгас выкарыстоўваў пад клюб, упершыню ў жыцьці ўбачыў кіно – прывезьлі са Слуцку "Чапаева". Два мужчыны па чарзе круцілі дынама, якое давала ток для апарату. Паглядзець на цуд сышлася ўся вёска, дзеці сядзелі на падлозе, але Анюціных хлопчыкаў сярод іх не было.

Толькі ў 1938 г. Анюту прынялі ў калгас і вярнулі ўсю хату. Памятаю, як маці наша казала, што Анюта "трохжыльная" – не было ёй роўні ні на жніве, ні на сенажаці — на любой працы, куды раніцай, пабразгаўшы ў акно, клікаў брыгадзір. Анюта трымала карову. Каб пракарміць яе ўзімку, ноччу хадзіла з посьцілкай ажно ў іншы калгас, да стагоў, скубла сена і, сагнуўшыся ў тры пагібелі пад цяжкой ношкай, вярталася дамоў.

Толькі ў вайну, калі з Асіповіч вярнуўся мужык, Анюта зажыла па-людзку, бо за адзінаццаць гадоў адсутнасьці ейны Аляксандар ня страціў працавітасьці й не расьпіўся, як іншыя. Ціхі, негаваркі ў мужчынскіх вулічных гамонках, добразычлівы да суседзяў, ён быў гэткім увасабленьнем сялянскай пакорлівасьці і цярпеньня.

Дажылі Заброцкія да глыбокай старасьці, так і ня здолеўшы за гады катаржнай калгаснай працы пабудаваць сабе новую хату. Зьехалі зь вёскі іх дзеці – як і ва ўсіх вяскоўцаў.

...Зь сямі высланых за Котлас сем'яў вярнуліся дахаты толькі сем чалавек. Астатнія высяленцы або паўміралі з голаду і хваробаў, або загінулі на вайне. З тых сямёх жывуць яшчэ дзьве бабулі – адной 74 гады, другой – 80. Апошнія сьведкі жудаснай пары.

# Ганько, Навіцкі і Абрамава

**Лявон Юрэвіч. Вырваныя бачыны: Да гісторыі Саюзу Беларускай Моладзі. Менск: Энцыкляпэдыкс (бібліятэка часопісу "Беларускі Гістарычны Агляд"), 2001.**




Якіх толькі сабак ня вешала на СБМ савецкая гістарыяграфія! Плён яе працы жывы да сёньня. Таму "Народная газэта" ў 2000 г. дазволіла сабе назваць сяброў СБМ "эсбэмуямі" (хлопцаў) і "эсбэмуёвінамі" (дзяўчат). "Гісторыкі савецкай школы" таксама працягваюць традыцыі шальмаваньня "фашысцкіх прыхвасьняў" – у такім духу напісаная, напрыклад, новая кніга выкладчыка менскага пэдінстытуту Аляксандра Кавалені "Прагерманскія саюзы моладзі на Беларусі".

Важкі адказ на гэткае шальмаваньне – кніга Лявона Юрэвіча.

Ягоныя "Вырваныя бачыны" – спроба ліквідаваць белыя плямы гісторыі апошняй вайны. Кніга складаецца з успамінаў Міколы Ганька, Валера Навіцкага і лістоў Надзеі Абрамавай.

Ганько згадвае ня толькі пра асабісты ўдзел у СБМ і сваё пазьнейшае жыцьцё на эміграцыі, але й пра роднага брата, кіраўніка СБМ Міхася Ганька. Сьлед Міхася, лічылася дагэтуль, губляўся ў траўні 1945 г. пад Прагай. Цяпер мы ведаем, што ён нелегальна перабраўся ў Беларусь і недзе да 1947 г. партызаніў супраць савецкай улады.

Вялікую цікавасьць выклікаюць лісты Надзеі Абрамавай, кіраўнічкі СБМ сярод дзяўчат. У 1950—70-х г. яна была супрацоўніцай мюнхэнскага Інстытуту па вывучэньні СССР, дзе займалася пытаньнямі перасьледу царквы ў Савецкім Саюзе. Лісты доктаркі Абрамавай глыбока асабістыя, у іх нічога не гаворыцца пра СБМ, але яны дапамагаюць адчуць унутраны сьвет гэтай жанчыны. Лісты надзвычай чульлівыя і поўныя смутку з-за страты прыёмнай дачкі Тамары (яна ўзяла яе ў вайну; Тамара, магчыма, была жыдоўкаю). Цікава, што Абрамава, зусім як большасьць цяперашніх "апазыцыйных палітыкаў", была расейскамоўнаю, і, відаць, гэтаксама як яны, апартуністычнаю нацыяналісткаю.

Кніга не закрые ўсіх белых плямаў, але пэўная колькасьць вырваных бачынаў усё ж вернутая Лявонам Юрэвічам у Кнігу Гісторыі.

**Ю.Л.**

## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю



Г.Чарказян. **Чаргаві**: Вершы / Пер. з курдзк. і прадм. Р.Барадуліна; Маст. К.Камал. - Менск: ЛМФ «Нёман», 2001. - 160 с.: іл. - Наклад 1000 ас. ISBN 985-6555-06-X

*"Чаргаві" па-курдзку - чатыры крокі. «Курды, вогнепаклоньнікі й небалюбы, ступіўшы чатыры крокі ў гарах, пасьпявалі ў думках ажывіць і ўзважыць усё сваё зямное бытаваньне. Ганад у сваіх чаргаві з мудрасьцю візаві», - піша ў прадмове Рыгор Барадулін.*

У.Лукша. **Случчына: мінулае й сучаснасьць**: Да 885-годзьдзя заснаваньня гораду Слуцку / Укл. В.Відлогі. - Менск: Беларускі кнігазбор, 2001. - 32 с. - Наклад 500 ас. ISBN 985-6638-20-8

*У кніжцы сабраныя замалёўкі гістарычных мясьцінаў, вуліц, пляцаў, будынкаў Слуцку, выкананыя мастаком У.Лукшам. Выявы суправаджаюць вершы беларускіх паэтаў.*

**Вялейскі краязнаўчы зборнік**: Матэрыялы краязнаўчай навуковай канфэрэнцыі «Вялейшчына - погляд у мінулае й сучаснасьць» (27 траўня 1999 г.) / Скл. В.Коласава. - Менск: Беларускі кнігазбор, 2001. - 68 с.: іл. - Наклад 400 ас. ISBN 985-6638-23-2

*Сярод апублікаваных у кнізе спавешчаньняў навуковае канфэрэнцыі найцікавейшыя: Л.Дучыц «Старажытны касьцюм Вялейшчыны», Э.Зайкоўскага «Сьляды язычніцкіх вераваньняў на Вялейшчыне», А.Зайцава «Гістарычныя камяні Вялейшчыны», С.Зубовіч «Тамаш Зан - барацьбіт і краязнаўца», В.Коласавай «Н.Сіліวановіч і Я.Альпяровіч - мастакі Вялейшчыны». Кнігу можна набыць у Вялейскім краязнаўчым музэі.*

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**





## Дыскаграфія

**"ТАНЧЫЦЬ ПАЛАЦ". (P) 2001, BULBA RECORDS.**

# "Палац" і dj Ray Хвісевіч



Сябры! Зь вялікім задавальненьнем хачу вам паведаміць, што задума ды-джэя Рэя Хвісевіча бліскуча праваліласяя: нягледзячы на ўсе ягоныя намаганьні сапсаваць песьні "Палацу" ён ня здолеў. Варты музычны матэрыял зьнявечыць ня так проста.

У адрозьненьне ад аранжавальнікаў, якія горай, чым яна ёсьць, песьню зрабіць ня здольныя, дыджэі, якія музычных акадэміяў не сканчалі, імкнуцца замяніць прафэсійныя навыкі аранжаваньня рознымі гукавымі штучкамі ды рытмічнымі выкрунтасамі. І чым больш яны нявечаць арыгінал, тым больш пасьпяховым лічыцца зробленае і тым круцейшым выглядае ды-джэй.

Рэй Хвісевіч паставіўся да песень даволі ашчадна. І хоць далёка не заўсёды ён бліскучы і вынаходлівы ў стварэньні гукавой ды рытмавай абалонкі песень, яны ў выніку трацяць ня так шмат, як маглі б. На сёньняшніх дыскатэках гэтыя адаптацыі фальклёру ня будуць выглядаць чужымі. А за кошт таго, што ў аснове рэміксаў ляжаць народныя песьні, праект наагул набывае арыгінальнасьць — па-за Беларусяй гэтыя песьні будуць успрымацца яшчэ і як экзотыка.

Цікава, што закрывае альбом набор аўтэнтычных музычных сэмплаў. Ня ўсе яны, праўда, такія аўтэнтычныя, але зь іх дапамогаю кожны з вас можа паспрабаваць, маючы адпаведны сынтэзатар, зрабіць нешта падобнае, што зрабіў з музыкай "Палацу" ды-джэй Рэй Хвісевіч.

**Ды-джэй SLUHATCH**

# ЯК У КЕПСКІХ РАМАНАХ

*Як у кепскіх раманах*

Гайнрых Бёль

На вечар мы запрасілі Цумпэнаў, мілых людзей, знаёмства зь якімі я заўдзячваю цесьцю; ад нашага вясельля ён намагаецца знаёміць мяне зь людзьмі, якія могуць быць мне карысныя ў дзелавым сэнсе, а Цумпэн можа быць мне карысным: ён начальнік камісіі, якая разьмяркоўвае падрады на будаўнічыя работы ў вялікіх паселішчах, а я праз шлюб апынуўся ў прадпрыемстве, якое выконвае экскаватарныя работы.

Я нэрваваўся перад вечарам, але мая жонка, Бэрта, супакоіла мяне. «Тое, што ён увогуле прыйдзе, — сказала яна, — ужо нешта значыць. Проста паспрабуй асьцярожна завесьці размову пра падрад. Ты ведаеш, што заўтра будуць абвяшчаць вынікі».

Я стаяў пры дзьвярах у дом, за фіранкай, і чакаў Цумпэнаў. Я дапаліў цыгарэту, раздушыў недапалак чаравікам і засунуў яго пад дыванок. Трохі пазьней я заняў пазыцыю пры акне ваннага пакою й разважаў пра тое, чаму Цумпэн так ахвотна прыняў запрашэньне; наўрад ці яго шмат цікавіла вячэра з намі, а той факт, што выдача вялікага падраду павінна была адбыцца заўтра, мусіў рабіць для яго гэтую сустрэчу гэтаксама няёмкай, якой яна была для мяне.

Я таксама думаў пра падрад: гэта быў вялікі падрад, я мог зарабіць 20 000 марак, і я вельмі хацеў зарабіць гэтыя грошы.

Бэрта выбрала мне строй: цёмны пінжак, трохі сьвятлейшыя нагавіцы і натуральнага колеру гальштук. Такіх рэчаў яна навучылася дома і ў школе ў манашак. Яны навучылі таксама сустракаць гасьцёў: калі падаваць каньяк, калі вэрмут, як аздабляць стол для вячэры. Вельмі карысна мець жонку, якая дакладна ведае такія рэчы.

Але Бэрта таксама нэрвавалася: калі яна паклала рукі мне на плечы, я шыяй адчуў, што вялікія пальцы яе рук вільготныя і халодныя.

«Усё будзе добра, — сказала яна, — ты атрымаеш гэты падрад».

«Божа мой, — сказаў я, — ход тут пра 20 000 марак, ты ж ведаеш, як дарэчы яны нам будуць».

«Ніколі, — ціха сказала яна, — нельга згадваць імя Бога ў зьвязку з грашыма!»

Цёмная машына спынілася ў нас перад домам, мадэль, якая была мне невядомая, але выглядала на італійскую. «Не сьпяшайся, — прашапятала Бэрта, — пачакай, пакуль яны пазвоняць, хай пастаяць дзьве ці тры сэкунды, тады павольна падыдзі да дзьвярэй і адамкні».

Я бачыў, як Цумпэны ўзьнімаюцца па лесьвіцы: ён — стрункі й высокі, сівізна на скронях, таго гатунку, які трыццаць гадоў таму называлі «сэрцаедамі»; фраў Цумпэн — з тых худых цёмных кабетаў, ад выгляду якіх мне заўсёды прыгадваецца цытрына. У Цумпэна было напісана на твары, што пэрспэктыва вячэры з намі страшэнна яго нудзіць.

Потым зазьвінеў званок, я счакаў сэкунду, дзьве, павольна падышоў да дзьвярэй і адамкнуў.

«Ах, — сказаў я, — як міла, што Вы да нас завіталі!»

З келіхамі каньяку ў руках мы абышлі нашае жытло: Цумпэны вельмі хацелі яго агледзець. Бэрта засталася ў кухні, каб выціснуць на бутэрброды з закускай маянэзу зь цюбіка; файныя ў яе выходзяць карункі, у выглядзе сэрцаў, мэандраў, малых хатак. Цумпэнам спадабалася нашае жытло; яны ўсьміхнуліся адзін аднаму, калі ўбачылі вялікі пісьмовы стол у маім кабінэце, у той момант ён і мне падаўся трохі завялікім.

Цумпэн пахваліў маленькі шкап у стылі ракако, які я атрымаў на вясельле ад бабулі, і мадонну ў стылі барока ў нашай спальні.

Калі мы вярнуліся ў сталоўку, Бэрта зьбірала на стол, і гэта яна таксама рабіла вельмі міла, так прыгожа і заразом натуральна, і за вячэраю было вельмі ўтульна. Мы гутарылі пра фільмы і кнігі, пра апошнія выбары, і Цумпэн хваліў розныя гатункі сыру, а фраў Цумпэн хваліла каву і піражныя. Потым мы паказалі Цумпэнам фатаграфіі з нашага вясельнага падарожжа і здымкі брэтонскага ўзьбярэжжа, гішпанскіх аслоў і вулак Касабланкі.

Тады мы зноў выпілі каньяку, а калі я хацеў узьняцца і прынесьці кардонку з фатаграфіямі тае пары, калі мы былі заручаныя, Бэрта зрабіла мне знак, і я не пайшоў па кардонку. Дзьве хвіліны панавала цішыня, бо мы ня мелі больш матар'ялу да размовы, і мы ўсе думалі пра падрад; я думаў пра 20 000 марак, і мне прыйшло ў голаў, што пляшку каньяку я мог бы ўпісаць у падатковай дэкларацыі ў "вытворчыя выдаткі". Цумпэн зірнуў на гадзіньнік, сказаў: «Шкада, ужо дзесяць, мы мусім сыходзіць. Дзякуй за гэткі прыемны вечар!» А фраў Цумпэн сказала: «Усё было чароўна, і я спадзяюся пабачыць вас у нашай хаце».

«Мы будзем радыя наведаць вас», — падзякавала Бэрта, і мы яшчэ паўхвіліны пастаялі, усе зноў думалі пра падрад, і я адчуваў, што Цумпэн чакаў, што я адвяду яго ўбок і пагавару зь ім. Але я гэтага не зрабіў. Цумпэн пацалаваў Бэрце руку, а я пайшоў наперадзе, адчыніў дзьверы і прытрымаў іх зьнізу для фраў Цумпэн.

«Чаму, — мякка сказала Бэрта, — ты не пагаварыў зь ім пра падрад? Ты ж ведаеш, што заўтра яны абвесьцяць вынікі».

«Божа мой, — сказаў я, — я ня ведаў, як пачаць размову на гэтую тэму».

«Ну, ты мусіў прыдумаць якуюнебудзь нагоду, — мякка сказала яна, — запрасіць яго да сябе ў кабінэт і там пагутарыць. Ты ж заўважыў, як ён цікавіцца мастацтвам. Ты павінен быў сказаць: у мяне там ёсьць яшчэ крыж XVIII стагодзьдзя, можа вам цікава паглядзець на яго, а тады ...»

Я маўчаў, і яна ўздыхнула і павязала сабе фартух. Я пайшоў за ёй у кухню; мы прыбралі засталыя бутэрброды ў лядоўню, і я мусіў паўзком шукаць на падлозе вечка ад цюбіка маянэзу. Я прыбраў рэшту каньяку, пералічыў цыгары: Цумпэн выпаліў толькі адну. Я выбіў папяльнічкі, стоўма зьеў яшчэ адно піражное і паглядзеў, ці засталася кава. Калі я вярнуўся на кухню, Бэрта стаяла там з ключом да машыны.

«Што здарылася?» — спытаўся я.

«Натуральна, трэба ехаць», — сказала яна.

«Куды?»

«Да Цумпэнаў. А што ты сабе думаеш?»

«Хутка ўжо палова на адзінаццатую».

«А хай бы нават была поўнач, — сказала Бэрта, — наколькі я ведаю, ідзецца пра 20 000 марак. Ня думай, што яны такія далікатныя».



Яна пайшла ў ванную, каб прывесьці сябе ў парадак, а я стаяў ззаду і глядзеў, як яна выцірае вусны, крэсьліць новыя лініі, і ўпершыню зацеміў, які шырокі й прымітыўны гэты рот. Калі яна зацягвала вузел на маім гальштуку, я мог пацалаваць яе, як заўжды раней, калі яна завязвала мне гальштук, але я не пацалаваў яе.

У кавярнях і рэстарацыях у горадзе ярка гарэла сьвятло. Людзі сядзелі знадворку на тэрасах, і ў срэбных вазачках для марозіва і вядзерцах для лёду блукала сьвятло ліхтароў. Бэрта падбадзёрвала мяне вачыма, але засталася ў машыне, калі мы спыніліся перад домам Цумпэнаў, а я адразу націснуў на званок і быў зьдзіўлены тым, як хутка мне адмыкнулі. Фраў Цумпэн, здавалася, не зьдзівілася, убачыўшы мяне; на ёй быў чорны хатні строй з шырокімі, вельмі свабоднымі калашынамі, расшытымі ў жоўтыя кветкі, і больш чым калі раней яна нагадвала мне пра цытрыны.

«Перапрашаю, — сказаў я, — я хацеў бы пагаварыць з вашым мужам».

«Ён выйшаў, — сказала яна, — ён вернецца праз паўгадзіны».

У калідоры я ўбачыў шмат мадоннаў, гатычных і барока, нават ракако, калі такія ўвогуле ёсьць.

«Добра, — сказаў я, — калі дазволіце, я вярнуся праз паўгадзіны».

Бэрта купіла сабе вечаровую газэту: яна чытала ў машыне, палiла, і, калі я сеў побач, яна сказала: «Мяркую, ты мог бы пагаварыць пра гэта і зь ёй».

«А скуль ты ведаеш, што яго не было дома?»

«Бо я ведаю, што ён сядзіць у клюбе «Гафэль» і гуляе ў шахматы, як кожную сераду вечарам а гэтай гадзіне».

«Магла б сказаць мне раней».

«Ты мусіш зразумець мяне, — сказала Бэрта і склала газэту. — Я ж хачу табе дапамагчы, хачу, каб ты сам навучыўся ўлагоджваць такія рэчы. Мы мусілі адно патэлефанаваць майму бацьку, і ён за адзін званок уладзіў бы ўсё за цябе, але ж я хачу, каб ты атрымаў падрад сам».

«Добра, — сказаў я, — дык што мы зробім цяпер: пачакаем паўгадзіны ці падніммемся й пагутарым зь ёй зараз?»

«Найлепш падняцца зараз», — сказала Бэрта.

Мы вылезьлі з машыны і разам паехалі ў ліфце ўгару.

«Жыцьцё, — сказала Бэрта, — складаецца з таго, што людзі заключаюць кампрамісы і робяць саступкі».

Фраў Цумпэн была зьдзіўленая гэтаксама мала, як і колькі хвілін таму, калі я быў зайшоў адзін. Яна павітала нас, і мы прайшлі за ёй у кабінэт мужа. Фраў Цумпэн прынесла пляшку каньяку, наліла і, яшчэ перш чым я пасьпеў сказаць нешта пра падрад, прасунула да мяне хуткасшывальнік: «Паселішча Яловая Ідылія» — прачытаў я і напужана паглядзеў на фраў Цумпэн, на Бэрту, але яны абедзьве ўсьміхаліся, і фраў Цумпэн сказала: «Адкрыйце тэчку» — і я адкрыў яе; усярэдзіне ляжаў другі, ружовы, хуткасшывальнік, і на ім я прачытаў: «Паселішча Яловая Ідылія. Экскаватарныя работы». Я адкрыў і гэтую тэчку, убачыў, што мой каштарыс ляжыць першы; уверсе на палёх нехта напісаў чырвоным алоўкам: «Самая танная прапанова!»

Я адчуваў, што пачырванеў з радасьці, адчуваў, як білася маё сэрца, і думаў пра 20 000 марак.

«Божа мой», — ціха сказаў я і захлопнуў тэчку, і гэтым разам Бэрта забылася зрабіць мне заўвагу.

«Прост, — сказала фраў Цумпэн з усьмешкай, — давайце вып'ем».

Мы выпілі, я ўзьняўся і сказаў: «Магчыма, гэта некультурна, але вы, пэўна, разумееце, што цяпер я хачу дадому».

«Я добра разумею вас, — сказала фраў Цумпэн, — трэба толькі ўладзіць яшчэ адну драбніцу». Яна ўзяла тэчку, пагартала старонкі і сказала: «Вашая цана за кубічны мэтар на трыццаць пфэнігаў меншая за цану найбліжэйшага канкурэнта. Я прапаную вам падняць цану яшчэ на пятнаццаць пфэнігаў — тады вы ўсё адно застанецеся самым танным, але атрымаеце на чатыры тысячы пяцьсот марак болей. Зрабіце ж гэта зараз!». Бэрта выцягнула з сумачкі асадку і працягнула мне, але я быў занадта ўсхваляваны, каб пісаць; я аддаў тэчку Бэрце і назіраў, як яна спакойнаю рукою зьмяняла цану за мэтар, нанова напісала канчатковую суму і вярнула тэчку фраў Цумпэн.

«А цяпер, — сказала фраў Цумпэн, — яшчэ адна драбніца. Вазьміце вашу чэкавую кніжку і выпішыце чэк на тры тысячы марак, гэта павінен быць чэк для аплаты наяўнымі, які будзе дысканттаваны вамі».

Яна сказала гэта мне, але нашую чэкавую кніжку са сваёй сумачкі выцягнула Бэрта і выпісала чэк.

«У нас няма чым пакрыць яго», — ціха сказаў я.

«Калі падрад выдадуць, вы атрымаеце аванс, і тады пакрыеца», — сказала фраў Цумпэн.

Магчыма, тады я нават не разумеў, што адбывалася. Калі мы ехалі ў ліфце ўніз, Бэрта сказала, што яна шчасьлівая, але я маўчаў.

Бэрта выбрала іншы шлях, мы ехалі ціхімі кварталамі, я бачыў сьвятло ў адчыненых вокнах, людзей, што сядзелі на балконах і піліі віно; стаяла сьветлая і ціхая ноч.

«Чэк быў для Цумпэна?» — толькі раз ціха спытаўся я, і Бэрта гэтаксама ціха адказала: «Вядома».

Я зірнуў на Бэрціны маленькія смуглявыя ручкі, якія ўпэўнена і спакойна трымалі стырно. Рукі, якія падпісваюць чэкі і выціскаюць маянэз зь цюбікаў. Я зірнуў на яе рот, і цяпер мне таксама не хацелася цалаваць яго.

Гэтым вечарам я не дапамог Бэрце паставіць машыну ў гараж і не дапамог змываць начыньне. Я ўзяў вялікі келіх каньяку, падняўся ў свой кабінэт і сеў пры пісьмовым стале, завялікім для мяне. Я думаў аб чымсьці, узьняўся, пайшоў у спальню і паглядзеў на мадонну ў стылі барока, але і там тая рэч, пра якую я думаў, не прыходзіла мне ў галаву.

Званок тэлефону перабіў мае роздумы; я ўзяў слухаўку і не зьдзівіўся, калі пачуў Цумпэнаў голас.

«Вашая жонка, — сказаў ён, — трохі памылілася. Яна падвысіла кошт за кубічны мэтар не на пятнаццаць, а на дваццаць пяць пфэнігаў».

Я трохі падумаў і адказаў: «Гэта не памылка, гэта адбылося з маёй згоды».

Ён спачатку памаўчаў, а тады сказаў, сьмеючыся: «Дык вы, значыць, папярэдне абмеркавалі розныя магчымасьці?»

«Так», — сказаў я.

«Добра, тады выпішыце яшчэ адзін чэк, на тысячу».

«Пяцьсот», — сказаў я, і падумаў: як у кепскіх раманах, гандаль.

«Васямсот», — сказаў ён, і я засьмяяўся: «Шасьцьсот». Хоць і ня меў досьведу, я ведаў, што зараз ён скажа: "Сямсот пяцьдзясят". Калі ён насамрэч адказаў: "Сямсот пяцьдзясят" я такнуў і павесіў слухаўку.

Яшчэ не было дванаццатай, калі я выйшаў аддаць Цумпэну чэк. Ён прыехаў адзін і засьмяяўся, калі я сунуў яму праз вакно складзены чэк. Дадому я вяртаўся паволі. Бэрты яшчэ не было відаць, яна не прыйшла, калі я вярнуўся ў кабінэт; яна не прыйшла, калі я сходзіў выпіць халоднага малака, і я ведаў, пра што яна думала: ён павінен прайсьці праз гэта, і я мушу даць яму пабыць на самоце, ён павінен зразумець гэта.

Але я так і не зразумеў гэтага, і гэта сапраўды незразумела.

**Пераклаў зь нямецкай**
**Алесь Пяткевіч**

